# К КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 35 (296) 6 — 12 верасня 1997 г. КОШТ 2000 РУБЛЁЎ

ІНФАРМУЕ







ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА І ДРУКУ

ГРАМАТА

рупліўцу святой мовы беларускай

• Стар.2



• Стар.3

Стар.4 •




Стар.4 •

П

ПАДЗЕІ
ПРАБЛЕМЫ
ПРАГРАМЫ
ПРАЕКТЫ

ВЕРАСЕНЬ

АРТ-ВІТРАЖ



• Стар.4



• Стар.3, 8



Стар.9 •



• Маскве — 850 гадоў



• Стар.11

ЖНІВЕНЬ-ВЕРАСЕНЬ

ПРАЗ ПРЫЗМУ "БАГЕМНАГА" ШКЛА:

А

АПРАБАЦЫІ
АВАЦЫІ
АНТУРАЖ
АЖЫЯТАЖ

Стар.12



• з 23 па 25 верасня ў Кішынёве пройдуць Дні культуры Рэспублікі Беларусь у Малдове



• Стар.5

# РОК-ГАЛАШЭННЕ ПА ВАКАЦЫЯХ

Матылькі і рыбы збіраюцца на святло, пчолы і мурашы — на цукар, акулы — на пах крыві, а вось людзі, асабліва ва ўзросце да сарака, сыходзяцца на гукі. А калі тыя гукі яшчэ і рытмізаваныя, і выланцужаныя ў пэўную мелодыю, то людзей можа назбірацца столькі!..

Колькі іх было 1 верасня ў мінскім парку Чэлюскінцаў! Там адбываўся рок-плач па заўчасна адышоўшых вакацыях. Але плач той быў грымотам падобны. Таму і людзей сышлося, як хмараў у небе — не праслізнуць, не прашчыміцца, не прадыхнуць. Пара, пара ўжо гэткія навальнічныя мерапрыемствы арганізатарам арганізоўваць на больш адкрытых пляцоўках: стадыёнах, лётных палях, высушаных азёрах ці меліяраваных балотах... "Танц-загон" у парку Чэлюскінцаў відавочна не мог змясціць усіх уладальнікаў здаровых барабанных перапонак, якія прагна жадалі, каб тыя перапонкі ў іх трапяталі і трапяталі бесперастанку. Добра яшчэ, што чалавечыя плыні не спыняліся каля сцэны, а безупынна цяклі ў той бок, дзе білі вытокі піўных плыняў. Інакш крахнула б агароджа вакол танцпляцоўкі, бо не гумовая ж.

І, безумоўна, усюды стаяў несусветны шумгуд, які па чарзе стараліся прарэзаць, прапілаваць, прасячы нашыя выбітныя рок-дружыны. Першай у бітву за па-вакацыйны час уступіла гераіня "Басовішча-97". Толькі вось яшчэ якая дзівосная нечаканасць — тэксты гэтай групы чамусьці англа(падобна)моўныя. Намаганнямі бубнара і рэзка-эмацыянальнай вакалісткі дружына змагла раскалыхаць людскія хвалі, хаця гэтаму перашкаджала "стараннасць" сола-гітарыста. "Прымочка" ягонай гітары выпускала гэткі мэтараскіраваны ультрагук, што стваралася ўражанне, быццам па ўсім наваколлі мітусіцца прамень "пясочнага" лазера, які, шматкроць адбіўшыся ад усіх магчымых перашкодаў, запаўняў прастору дзікім трызь-зь-зь-зь-неннем.

Вельмі цяжка ў гэткіх умовах было выступаць меладычным гуртам, такім як "Kriwi", што выконвае этна-рок. Але яны давалі хоць пэўны перадых для напятых, як струны электрагітары, целаў і душаў.

Даволі ўдалай аказалася заключная частка канцэрта, дзе выступалі каманды, так бы мовіць, са сцэнічным стажам, якія ўжо са свайго досведу ведаюць, як наладжваць апаратуру перад спяваннем і граннем, як арганізаваць само выступленне. Гэта такія гурты, як "Нейра Дзюбель", "Уліс", "Новае неба", "НРМ". Засмуціла адно, што мэтру блюзавай музыкі — "Краме" — не хапіла часу выступіць, бо канцэрт быў запланаваны толькі да 23.00. Парк усё ж такі.

Па завядзёнцы канцэрты пад адкрытым небам пад назвай "Рок па вакацыях" адкрываюць новы рок-сезон на Беларусі, і мне хацелася даведацца ў музыкантаў, што ў гэтым сезоне можна чакаць, які плён ён прынясе. Але гукавы фон настолькі перавышаў магчымасці няўзброеных галасавых звязак, што рок-творцы адмахваліся ад дыктафона як ад звяжыны. Удалося толькі нешта даведацца ў бас-гітарыста "Нейра Дзюбеля" Стаса Паплаўскага:

— У новым сезоне,— кажа ён,— у нас чакаецца новы альбом, які ён будзе — пакуль сакрэт, але з упэўненасцю скажу — беражыце свае нервы! А што будзе ўвогуле на Беларусі... Я скажу дакладна — "Нейра Дзюбель" будзе.

Пацярпеўшы фіяска з рок-музыкамі, я ўзрадаваўся сустрэчы з патрыярхам беларускага рока, выбітным журналістам, рок-крытыкам, захавальнікам агменя рок-музыкі 60-х, 70-х і 80-х, аўтарам нашумелай кнігі "Праз рок-прызму" Вітаўтам Мартыненкам. На пытанне наконт перспектываў беларускай рок-музыкі, ён адказаў:

— На жаль, новая плыня не прыйшла. Пакуль засталіся маманты, якіх мы сёння пачулі: "Уліс", "НРМ", "Крама", "Новае неба". Дзякуй Богу, што яны яшчэ не вымерлі. А тыя, хто патрабуюць саступіць ім дарогу, такія, напрыклад, як тая ж "Hasta La Fillsta", — гэта хутчэй параджэнне амерыканскай культуры. Патрэбна, каб прыйшлі музыканты, якія паходзяць каранямі з культуры Беларусі. І галоўнае, каб гэта былі не адзін-два гурты, а цэлая плыня. Падобныя гурты могуць з'яўляцца і з'яўляюцца, як кропелькі дажджу, але задача прэсы, дый тых, хто наладжвае канцэрты, — іх сабраць. На жаль, пакуль гэтага няма і невядома, ці будзе тое ў наступным сезоне. Магчыма, толькі больш-менш трымаецца, як запаветны куточак, этна-рок. Не выключана, што падымецца металічны беларускі гурт "Зніч", які працягвае традыцыі, што распачала шэсць год таму "Дзіда". А так, каб з'явілася шырокая плыня, — пакуль не бачна, дый не бачна ўмоў гэтага ўзнікнення.

Што ж, не вельмі радасныя словы. Аднак, не жадаючы заканчваць споведзь на сумнай ноце, мне захацелася выказаць свой прагноз-спадзяванне на наступны сезон. Па ўсіх прыкметах на беларускім рок-небасхіле павінны яшчэ мацней разгарэцца гэткія "беларуска-культурніцкія" гурты "ЖАХ", "Кальян", "Гай", "Правакацыя", "Сонца Мао", "Flower vill", "Млын". Магчыма, іх эпатажу хопіць, каб утварыць сваю непаўторную плыню, аб якой разважаў Вітаўт Мартыненка.

**Галактыён КАТРЫНКА**

## У ЕЎРАПЕЙСКІМ КАНТЭКСЦЕ

Па ініцыятыве Савета Еўропы пры падтрымцы Еўрапейскага Саюза ў верасні на Беларусі пройдуць еўрапейскія дні Спадчыны. Сёлета 40 краін бяруць удзел у гэтай міжнароднай акцыі, у тым ліку і наша Беларусь. Неабходнасць правядзення такіх дзён — а доўжыцца на Беларусі яны будуць з 12 па 15 верасня — відавочная, бо найпершая мэта акцыі: захаванне культурнай спадчыны ўсіх еўрапейскіх народаў, а таксама імкненне падкрэсліць адметнасць і непаўторнасць малых культур і іх узаемны ўплыў. Тэматычная назва дзён: "Рухомыя каштоўнасці, зборы і калекцыі". Праграмай еўрапейскіх дзён Спадчыны прадугледжаны: выезд у Мір і Нясвіж, адкрыццё выстаў "Зямля апаленага бусла", "Маляванкі: экспазіцыі творчасці юных" у Івацэвіцкім дзіцячым доме. Запланаваны таксама экскурсіі студэнтаў і школьнікаў Беларусі па гістарычных мясцінах гарадоў і паселішчаў, па выставачных залах і музеях, экскурсіі па маршрутах "Мінск—Мір—Нясвіж", "Магілёў—Шклоў—Навагрудак — Шчорсы". Плануецца таксама ва ўсіх навучальных установах правесці тэматычныя кінавідэазаняткі, лекцыі "Спадчына". У кіназалах будуць дэманстравацца мастацкія і дакументальныя фільмы кінастудыі "Беларусьфільм", а ў Саюзе кінематаграфістаў адбудзецца прэм'ерны паказ фільмаў "Першая муза Нясвіжа" і "Макбет". З улікам тэматычнай накіраванасці дзён распрацаваны пытанні да віктарыны, якая пройдзе ў школах нашай краіны.

Напрыканцы дзён адбудзецца "круглы стол", які падвядзе вынікі міжнароднай акцыі на Беларусі.

Як сведчаць дадзеныя статыстыкі, летась больш за 15 мільёнаў еўрапейцаў удзельнічалі ў мерапрыемствах дзён спадчыны, думаецца, што сёлетнім вераснем удзельнікаў будзе значна больш.

**А.Р.**

## ЗАЎТРАШНІЯ ЭКСПАЗІЦЫІ

У Нацыянальным музеі гісторыі і культуры да 20 верасня будзе экспанавацца фота-этнаграфічная выстава "Палессе, якога мы не ведалі". Як ужо паведамляла наша газета, арганізавана выстава Міністэрствам культуры РБ, амбасадай Польшчы ў Рэспубліцы Беларусь, Беларускім інстытутам праблем культуры, кафедрай этналогіі і антрапалогіі культуры Варшаўскага універсітэта. Па заканчэнні выставы плануецца правесці навуковы семінар, дзе адбудзецца выніковая гутарка пра ролю выставы ў культурных стасунках паміж Польшчай і Беларуссю.

Надзвычай напружаным быў пачатак верасня для Літаратурнага музея Янкі Купалы. Першага верасня праз ягоныя залы прайшлі 40 экскурсій. Няцяжка здагадацца, што наведнікамі музея былі вучні мінскіх школ, каб распачаць навучальны год пад сімвалам спасціжэння творчасці вялікага песняра. Літаратурная канферэнцыя, прысвечаная 70-годдзю з дня нараджэння Алеся Адамовіча, адбылася ў музеі 2 верасня. На працягу месяца тут пройдзе літаратурная тэматычная вечарына "Беларусы ў Вільні", а таксама будуць падведзены вынікі міжнароднага купалаўскага пленэру, што адбыўся сёлета ў маі — ліпені.

Музей гісторыі беларускай літаратуры зараз рыхтуе выставы, прысвечаныя творчай дзейнасці Алеся Адамовіча, Пімена Панчанкі, Максіма Танка. Пра час адкрыцця выстаў наша газета будзе паведамляць у наступных нумарах.

**А.Р.**

# ПРЫВІДЫ І ЗДАНІ ВАЛЕРЫЯ СЛАВУКА

В.Славук. Крыніца. Афорт, 1994.

Валерый Славук... Гэтае імя я запомніў гадоў пятнаццаць таму, пабачыўшы ягоныя цудоўныя ілюстрацыі да "Удовінага сына". А потым было вельмі шмат іншых ілюстрацый да дзіцячага казачнага свету.

"Я спрабую ўбачыць малюнкі вачыма таго дзіцяці, якому прызначалася дадзеная кніга", — неяк заўважыў Валерый. І гэта ў яго цудоўна атрымліваецца, таму што ў сваіх кнігах ён пашырае прастору жыцця, і ў ім вольна суседнічаюць сённяшні дзень і мінуўшчына, фантастычныя вобразы і сапраўдныя жыццёвыя рэаліі, мара і рэчаіснасць...

Выстава афортаў В.Славука ў галерэі "Мастацтва", на першы погляд, таксама "казачная", "фантастычная", "дзіўная", але — з іншага духоўнага вымярэння. Тут жывыя нервовыя канчаткі адгукаюцца на сённяшні боль часу, на "іншапланетнае" мінулае, на мроі "па той бок" рэальнасці, што пра цінаюць памяць мастака.

У.Славук прыцягвае ў свой дзіўны свет. І тады пачынаеш разумець і ўспрымаць ягоныя ідэі не як "выхадку" інтэлектуала, а як імкненне выказаць такой, хай незвычайнай, "босхавай" мовай, сваё бачанне, сваё ўспрыняцце свету. І разбураюцца стэрэатыпы, разнявольваецца свядомасць. І — пачынаеш асэнсоўваць драматургію ліній, вобразаў і аркушаў цалкам, іхні падтэкст. І ўзнікае адчуванне нейкай прыхаванай гармоніі ў нібыта страшэннай дысгармоніі вобразаў усіх гэтых монстраў, дапатопных жывёл, рыб, невядомых птушак, засохлых дрэваў, касмічных "спілбергавых" даспехаў, зямных сабак і ўсмешлівых людзей-кентаўраў...

Экскурсіі ў гісторыю Славука не ведаюць часавых межаў. Гістарычны дыяпазон у ягоных афортах бязмежны: ад фантасмагарычных "канфліктаў", што адбываюцца на нейкай іншапланетнай арэне "цырка" і бітвы вершніка-рыцара з ракетаноснай пачварай-спрутам да "прыцемак", якія спускаюцца на зямлю ў вобразах ірэальных істот-вурдалакаў; ад сярэднявечных матываў да нашых дзён, не менш д'ябальскіх, чым у часы братазабойства Каіна.

Графічныя творы-шырмы Славука насуперак сваім прадметным назвам ("Госці", "Двубой", "Дрэва", "Сабачкі", "Пляж", "Лес") не засланяюць, а раскрываюць апраметную. Сваім "эпізодам" Славук надае нібыта касмічны характар. Гістарычнае развіццё чалавецтва ў ягоным разуменні (ці мне так здаецца?) — гэта нейкі "шлях наканаваны", па якім паводле вабячых законаў безнадзейнасці ліхаманкава, нязграбна, раздражнёна рухаюцца на дзіках юродзівыя... Гэта мы альбо нашыя шматслойныя цені мінулага? Альбо нашыя патаемныя думкі, што мы ўвесь час хаваем? Хто ведае...

В.Славук. Дрэва. Афорт, 1992.

Так, крыважэрныя "гульні" славукавых персанажаў нахілілі свет, пагражаюць усеагульным распадам. У трагічным перажыванні мастака — не страх, але перасцярога. Ягоная трывога вялікая, але... выключае безвыходнасць. Сапраўднае ўваходжанне асобы ў плынь, у трагедыю становіцца паводле законаў мастацтва прасвятленнем, якое ўжо за межамі сюжэтаў адгукаецца ў гледачы прагай пераўвасаблення...

**Барыс КРЭПАК**

## НАВІНЫ МАСТАЦКАГА ЖЫЦЦЯ

*Навукова-вытворчая асацыяцыя "ОСМИЙ" звярнулася ў Беларускі Саюз мастакоў з прапановай арганізаваць гэтай восенню ў Мілане (Італія) выставу твораў беларускіх мастакоў. Паводле матэрыялаў экспазіцыі, што размесціцца ў буйным супермаркеце горада, мяркуецца выдаць на шасці мовах электронны каталог "Сучаснае выяўленчае мастацтва Беларусі-97". Каталог будзе распаўсюджвацца па мастацкіх галерэях свету, а таксама ён прызначаецца для спецыялістаў — мастацтвазнаўцаў і мастацкіх крытыкаў. Пэўны наклад пойдзе ў свабодны продаж у розных краінах.*

*З тымі мастакамі, чые творы зацікавяць патэнцыйных замежных галерэйшчыкаў, будуць заключаны адпаведныя дамовы, і іхнія творы будуць размешчаны на спецыялізаваным серверы ў сістэме Інтэрнет.*

# КУЛЬТУРА ІНФАРМУЕ

## "GOOD-BYE, LADY D",

...Вестка аб трагічнай гібелі ўэльскай прынцэсы ў апошні дзень лета атрымала, кажуць, такі ж міжнародны грамадскі рэзананс, што і, у свой час, забойства прэзідэнта Кенэдзі. Высветлілася, што, нават не займаючыся ні палітыкай, ні бізнесам, не здымаючыся ў кіно, гэтая сціплая арыстакратка заваявала сэрцы многіх людзей, розных узростаў, рас, поглядаў.

*З запісаў у кнізе спачуванняў ангельскай амбасады ў Мінску:*

*"Good-bye, lady D! We loved you..." (анг. "Да пабачэння, лэдзі Дзі! Мы цябе любілі...")*




Першыя дні ў смерці Дзіяны, Додзі аль-Фаеда і вадзіцеля "Мерседэса-280 SE", начальніка аховы гатэля "Рыц", абвінавачвалі "шакалаў"-фотарэпарцёраў, якіх ужо амаль сорак гадоў, пасля з'яўлення феліміеўскай "Дольчэ віты", па ўсім свеце клічуць "папарацi". Быццам бы сямёра з іх на скарасных матацыклах "заціснулі" "Мерседэс" у вузкім тунелі і той на хуткасці амаль двесце кіламетраў у гадзіну расплюшчыўся аб трынаццатую па ліку апору моста Альма. Але пазней высветлілася, што вінаваты шафёр, той самы ахоўнік гатэля, уласнасці бацькі Додзі: утрыманне алкаголю ў яго крыві ў некалькі разоў перавышала норму. І ўсё ж "папарацi" вінаватыя — у неаказанні дапамогі (хаця ці маглі яны дапамагчы заціснутым у металічным скрутку людзям, да таго ж у цэнтры Парыжа, дзе дапаможныя службы аказваюцца на месцы здарэння ў лічаныя секунды?), у стварэнні небяспечнай сітуацыі, у патуранні "ганебным густам публікі"... Між тым, далёка хадзіць не будзем, звернем увагу на нашых майстраў журналістыкі:

*Аглядальнік па пытаннях культуры вельмі паважанага агульнадзяржаўнага штодзённага выдання, добрая журналістка і прыгожая жанчына з выдатным густам і светлым розумам, замест наведвання культурных імпрэзаў зачасціла ў судовыя залы. На пытанне "Навошта?" пацiснула плячыма: "Сёння толькі на гэтым магчыма зрабіць імя..."*

*Загадчыца аддзела культуры яшчэ больш паважанай газеты, на двесце працэнтаў дзяржаўнай і настолькі ж лаяльнай, кажа, вяртаючы рукапіс: "Дасягненні айчыннай культуры — гэта добра, але пра гэта ніхто чытаць не будзе. Прыносьце што-небудзь "з душком" — абавязкова надрукуем!"*

Аглядальнікі ў адзін голас выказваюць меркаванні, што цяпер, нарэшце, заходнія дэмакратыі прымуць законы, якія абмяжуюць ўмяшальніцтва сродкаў масавай інфармацыі ў асабістае жыццё грамадзян. Але хто сапраўды вінаваты? На чыіх руках кроў — "папарацi", выдаўцоў "жоўтай" глянцавай прэсы, ці на тых, хто гэтую прэсу гартае? І ці толькі блакітнай крывёю прынцэсы можна прамыць позірк, затуманены прагай да сенсацый з чужога асабістага жыцця?

*—...Зразумела, вінаватыя журналісты! — бабулька-вахцёрка з сяброўкамі абмяркоўвае самую значную падзею апошніх дзён, на гэты раз забыўшыся нават пра перыпетыі лацінаамерыканскіх серыялаў. Прыгавор аднадушны, таму ключы мне падаюць з непрыхаванай нянавісцю ў вачах. Прыніжаны, я цягнуся ў рэдакцыю, а за маёй спіной узбуджаныя галасы працягваюць абмеркаванне: "Дык вось, яна было сышлася з гэтым Додзікам..."*

**Ігар КЛОКАЎ**

## ААН НА БЕЛАРУСІ

8 верасня спаўняецца 5 гадоў дзейнасці часовага аддзялення ААН на Беларусі. Такія аддзяленні былі адкрыты ў краінах СНД і Грузіі. Наша дзяржава стала першай з іх.

Мэта дзейнасці часовых аддзяленняў бачылася перш за ўсё ў забеспячэнні скаардынаванага падыходу ААН у задавальненні канкрэтных запатрабаванняў краін, якія ўключаюць у сябе аказанне дапамогі ў галіне развіцця на пераходным этапе. Яны забяспечваюць новую мадэль прадстаўніцтва ААН, якая садзейнічае выкарыстанню комплекснага падыходу па вырашэнні палітычных, сацыяльна-эканамічных, экалагічных і гуманітарных праблем.

Сваёй назвай новыя аддзяленні абавязаны перш за ўсё таму, што яны мелі эксперыментальны характар і першапачаткова не мелі фінансавання з рэгулярнага бюджэту ААН.

Сёння часовае аддзяленне ўяўляе сабой базавую структуру, у межах якой дзейнічае ААН і яе праграмы, фонды і аддзяленні (ПРААН, ЮНФПА, УВКБ, ЮНІСЭФ МПП і інш.). Часовыя аддзяленні аказваюць кансультатыўныя паслугі, якія разлічаны на атрыманне хуткіх вынікаў у сціслыя тэрміны, садзейнічаюць кантактам паміж нацыянальнымі ўстановамі ў краінах і інстытутамі ААН для выпрацоўкі і ажыццяўлення праграм комплекснага тэхнічнага супрацоўніцтва. Яны адыгрываюць значную ролю ў садзейнічанні мерапрыемствам ААН па аказанні гуманітарнай і надзвычайнай дапамогі.

Кіраўнікі часовых аддзяленняў выступаюць як прадстаўнікі ААН і адказваюць за непасрэдны кантакт паміж кіраўнікамі ўрадаў і праграмамі, фондамі, аддзяленнямі ААН, прадастаўляюць абодвум бакам адпаведную інфармацыю.

На працягу мінулага года сістэма ААН на Беларусі правадзіла шэраг праектаў, з якіх варта згадаць хаця б наступныя: падтрымка цэнтраў псіхалагічнай рэабілітацыі насельніцтва, пацярпелага ад аварыі на ЧАЭС (ЮНЭСКА), падтрымка рэспубліканскіх навукова-даследчых інстытутаў у галіне ядзернай бяспекі, адукацыя і кансультаванне ў галіне радыеактыўнай абароны (МАГАТЭ), ажыццяўленне праграм у галіне абароны здароўя жанчын і дзяцей, планавання сям'і, рэфармаванне нацыянальнай сістэмы аховы здароўя, распрацоўка нацыянальнай палітыкі ў галіне лекаў (ВОЗ), распрацоўка канцэпцыі прафілактыкі і рэабілітацыі наркаманаў (ЮНДКП), падтрымка ўдзелу беларускіх спецыялістаў у курсах па сямейным планаванні (ЮНФПА), арганізацыя мастацкіх выстаў, прысвечаных памятным датам ААН (выстава да канферэнцыі Хабітат — П, "Спорт у нашым жыцці", "Мастакі супраць СНІД" (ДГІ).

Сярод новых праграм, якія ажыццяўляюцца ў бягучым годзе, вылучаюцца наступныя: Ажыццяўленне праекта Інтэрнэт па развіцці інфармацыйнай структуры, выданне нацыянальнага даклада аб становішчы жанчын на Беларусі, выданне трэцяй нацыянальнай справаздачы па развіцці чалавека на Беларусі (ПРААН), падтрымка стварэння нацыянальнага цэнтра па правах чалавека (Цэнтр па правах чалавека).

Пры азнаямленні з дзейнасцю структур ААН адчуваецца недахоп гуманітарных і ў шырэйшым сэнсе культурніцкіх праектаў. Варта ўлічваць, што любыя сацыяльныя, грамадскія, экалагічныя працэсы ў значнай ступені залежаць ад свядомасці людзей, якія ў іх задзейнічаны таму варта да праграм па ўстойлівым развіцці чалавека па магчымасці больш шырока падключаць гуманітарыяў для выпрацоўкі агульнаметадалагічных канцэпцый. Узаемаабмен культурнымі набыткамі паміж краінамі можа стаць эфектыўным засцерагальнікам супраць міжнацыянальных канфліктаў і мець выключнае значэнне для стабільнасці нацыі.

**Алесь ТУРОВІЧ**

## АЛЬПІЙСКІ ФОТАСТРАЛОК

Трэнціна-Альта Адзіджэ, вобласць з не самай тыповай італьянскай назвай, замыкае сабой поўнач апенінскай рэспублікі. Тут, у Альпах, сутыкнуліся і перапляліся дзве этнічныя і культурныя стыхіі: германская і лацінская. Архітэктурныя помнікі, скульптура, жывапіс, музыка ўспрынялі і арганічна ўвасобілі стылі і вобразы, здавалася б, кантрастныя. Не выміраюць старажытныя дыялекты, што засталіся ў адной-дзвюх вёсках. Для мастацтвазнаўцы і лінгвіста падарожжа ў гэты альпійскі край ёсць захапляючая прыгода.

У мястэчку Моры, што ластаўкіным гняздом прыляпілася да скалы, я сустрэў вядомага трэнцінца, фотамастака Рэнца Мацолу. Нястомны шукальнік матываў, ён адкрывае прыгожае ў штодзённым, цудоўнае ў звычайным і простым. Вечныя тэмы мацярынства і кахання ўвасобіліся ў вобразах натхнёных і ясных. Архітэктурныя серыі Рэнца прысвечаны не хрэстаматыйным шэдэўрам, а сустрэчам са "сціплымі" творамі раманскай і гатычнай эпох, што нечакана ўстаюць перад вамі на горных ростанях. У іх гучыць вечнасць, трэба толькі ўмець слухаць.

Беларускія гледачы пазнаёмяцца з творчасцю Рэнца Мацолы, выстава якога пройдзе ў верасні ў Беларускім універсітэце культуры, а затым — у Гомелі і Лідзе.

**Валерый БУЙВАЛ**



*На здымках Рэнца Мацолы: Мама Анжэла. Царква Святой Агаты.*

## Беларуская ОПЕРА

## СПАБОРНІЦТВА ДВУХ ТЭАТРАЎ НА АДНОЙ СЦЭНЕ

***Самы Вялікі тэатр краіны адным з першых распачынае новы сезон. І нягледзячы на гэта, абедзве яго трупы — оперная і балетная — у вераснёўскіх афішах абяцаюць надзіва яркія спектаклі. Гэта незвычайна для пачатку сезона, часцей ён пачынаўся з набору найменш складаных, таму — не надта цікавых прадстаўленняў. Зараз опера і балет быццам бы ўступаюць у спаборніцтва ў барацьбе за гледача — вядома ж, на карысць апошняму!***

**ОПЕРА пакажа свае найноўшыя пастаноўкі: прэм'еру сёлетнюю — "Травіята" і леташнюю — "Князь Ігар", якой, дарэчы, і распачне 65-ы сезон шостага верасня. Прыемна для аматараў будзе ўбачыць рэдка вялікія спектаклі, якія рэдка выконваюцца — "Лэдзі Макбет Мцэнскага павета (Кацярына Ізмайлава)" і "Пікавая дама" (у апошнім за дырыжорскім пультам будзе стаяць выдатны музыкант Ґенадзь ПРАВАТОРАЎ). Опера "Дзікае паляванне караля Стаха" таксама даўно не бачыла сцэны, яна створана па матывах рамана У.Караткевіча беларускім кампазітарам Уладзімірам СОЛТАНАМ. Спектакль прысвечаны памяці кампазітара, трагічна загінуўшага ў чэрвені.**

**Заўсёды радуе арыгінальнасцю кампазіцыя "О Моцарт, Моцарт!", дзе опера М.Рымскага-Корсакава "Моцарт і Сальеры" дапаўняецца лепшымі арыямі і уверцюрамі з опер самога Вольфганга Амадэя Моцарта. Дырыжыруе Аляксандр АНІСІМАЎ. Падобным чынам пабудаваны і вечар італьянскай оперы, дзе лепшыя арыі італьянскіх кампазітараў дапаўняюць оперу П.Масканы "Сельскі гонар".**

**Дарэчы, новы сезон беларуская опера сустрэне таксама і новым дызайнам афіш (аўтары мастакі Людміла ГАНЧАРОВА і Ігар РЭЗНІКАЎ). Звяртайце ўвагу на блакітныя афішы з адмысловым малюнкам!**

## Беларускі БАЛЕТ

**Распешчаны любімец гледачоў, Нацыянальны тэатр балета ў верасні — "на базе", г.зн. не выязджае на гастролі. І афіша ў верасні — разнастайная і шчыльная. Тут і самыя раннія пастаноўкі Валянціна ЕЛІЗАР'ЕВА — "Кармэн-сюіта", "Стварэнне свету", і славутыя "Страсці", балет, адзначаны міжнароднай узнагародай "Бенуа дэ ля данс", апошняя работа майстра. Таксама балеты, пастаўленыя іншымі нашымі харэографамі: "Доктар Айбаліт" — Уранам АЗІМАВЫМ, "Кругаверць" — Юліяй ЧУРКО і Уладзімірам ІВАНОВЫМ. І, нарэшце, прэм'ера "Раймонда", якую на заканчэнне мінулага сезона паставіў у нас Юрый ГРЫГАРОВІЧ.**







# ІМПРЭСЬЁН З БУРШТЫНАВЫХ ДЗЮНАЎ

Фотарэпартаж Генадзя ЖЫНКОВА з Літвы







Музей каменняў у г.Люседзісе

Гара крыжоў каля Шаўляя

Музей абсурду

Музей абсурду

Помнік ахвярам сталінскіх рэпрэсій у г.Крэтынзе

Ля ўваходу на гару Ведзьмаў – Пранас Самаўскас, гісторык Жмудзі.

Палац Тышкевіча ў Палангзе

Стваральнік музея каменняў урач Вацлавас Інтанас

Нацыянальны жамойцкі абутак











7.35 Лукамор'е.
7.50 "Шурале". Мультфільм.
8.00 Праваслаўны каляндар.
8.05 Бясконцае падарожжа.
8.35 Тэатр звяроў.
9.10 "Санта-Барбара".
14.45 На парозе стагоддзя.
15.15 Тэлемагазін.
15.25 Ці-маркет.
15.30 "І гэта кіно". Дак. серыял.
16.20 Лукамор'е.
16.50 Людзі, грошы, жыццё...
17.25 Тавары — поштай.
17.30 Прадстаўляе "Праект-арсенал".
17.45 "Санта-Барбара".
18.40 "Я песні аддаў усё спаўна". Заключны канцэрт тура, прысвечанага завяршэнню канцэртнай дзейнасці народнага артыста СССР Іосіфа Кабзона.

**Санкт-Пецярбург**

12.30, 15.30, 18.30, 21.30 Інфарм ТБ.
12.45 "Піўныя бароны". 4-я серыя.
13.55 Тэрмін адказу — сёння.
14.05 Парады садаводам.
14.25, 15.55 "Мая Расія".
14.55 Зорны розыгрыш.
15.40, 20.30 Тэлеслужба бяспекі.
16.40 Мультфільм "Хлопчык з ногцік", "Дзецям пра зверанят".
17.25 Тэлемагазін.
18.45 Спорт.
18.55 Вялікі фестываль.
19.10 "Піўныя бароны". 4-я серыя.
20.00 "Мая Расія". "Праваслаўная місія".
20.45 Пецярбург у рускай паэзіі.
20.50 "Чорны кот". Мастацка-публіцыстычная праграма.
21.50 Спорт.
21.55 "Акцёры..." Памяці Уладзіслава Стржэльчыка.
22.55 "Тэлекампакт". Музычнае шоу.
23.45 Хакей. СКА—"Дынама" (Масква).

**НТБ**

5.00, 9.00 Сёння раніцай.
8.05 "Падводная лодка". Серыял (Германія).
9.15 Свая гульня.
9.50 Навіны кіно.
10.00 "Катрын Кураж". Серыял.
11.00, 13.00, 15.00 Сёння ўдзень.
11.15 Меладрама "Непакорнае сэрца".
13.30 Баявік "Агент Мэлоун" (ЗША).
15.30 "Вуліца Сезам".
16.00 Дак. серыял "XX стагоддзе ў войнах". Фільм 16-ы "Канец вайны ў Еўропе" (1945 г.).
17.00 "Дыстанцыя" + "Пстрычка".
18.00, 21.00 Сёння ўвечары.
18.40 Герой дня.
19.00 Драма "Над Сант'яга ідзе дождж" (Францыя—Балгарыя).
21.45 "Карункі". 7-я серыя.
22.40 Сённячы.
23.00 Сёння апоўначы.
23.15 У друк.
23.25 Лірычная камедыя "Ханна і яе сёстры" (ЗША).

**8-ы канал**

18.00 Для дзяцей "Жэўжыкі".
18.30 Праграма Кенета Копланда.
19.00 "Канікулы ў Вегасе". Маст. фільм.
20.30 Мульт-планета.
20.45 Серыял "Горац-4".
21.45 Музычны канвеер.
22.15 Майкл Такер у маст. фільме "За адзін удар сэрца".

## Пятніца, 12 верасня

**Беларускае тэлебачанне**

7.30 Ранішні кактэйль.
7.45 "Музычная абойма".
7.50 "Восеньскія фарбы горнага Крыма". Кінанарыс.
8.00 Навіны.
8.10 "Тэлебарометр".
8.20 Бархатны сезон. Музычна-забаўляльная праграма.
8.50 "Размова з майстрам". Дак. фільм.
9.00 Тэлебачанне—школе. Беларуская літаратура. Янка Купала і яго камедыя "Тутэйшыя".
9.30 Эканамікст.
9.40 Роднае слова.
10.10 "Пераход". Перадача для падлеткаў.
10.40 "Казка пачынаецца". Мультфільм.
11.15 "Трое ў лодцы, калі не лічыць сабаку". 2-я серыя.
12.20 "Зорная ростань". Тэлеконкурс маладых артыстаў эстрады.
13.00—13.10 Навіны.
15.00 Навіны.
15.10 Да Дня танкіста. Конкурс салдацкай песні.
16.00 Сядзіба. Праграма для дачнікаў.
16.30 Наваколле. Экалагічная перадача.
17.00 Музычны антракт.
17.10 "Апошні човен". Дак. фільм.
17.20 "Кола часу". Граф Чапскі.
17.45 Эканамікст.
18.00 Навіны (з сурдаперакладам).
18.15 Маст. фільм "Трое ў лодцы, калі не лічыць сабаку". 2-я серыя.
19.20 Тэма дня.
19.40 "Музычная абойма".
19.45 Міжнародны кур'ер.
20.00 "У джазе толькі дзяўчаты".
20.30 Восень — работ восем.
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.50 І. Мятліцкая і А. Абдулаў у маст. фільме "Чорная вуаль".
23.30 Акалада. Музычна-забаўляльная праграма.
24.00 Навіны.

**ГРТ**

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.15 Навіны.
8.15 "Дзяўчына па імені Лёс".
9.05 Мая сям'я: службовы раман.
9.45 Пакуль усе дома.
10.25 Грай, гармонік, любы!
14.20 Фільм-казка "Стары Хатабыч".
15.40 ...Да шаснаццаці і старэй.
16.05 Музычная праграма "50x50".
16.35 Вакол свету.
17.20 "Дзяўчына па імені Лёс".
18.10 Надвор'е.
18.15 Чалавек і закон.
18.45 Поле цудаў.
19.45 Добрай ночы, малышы!
20.00 Час.
20.45 Маска смерці ў дэтэктыўным серыяле "Строга на поўдзень".
22.30 Погляд.
23.25 Французскае каханне ў трылеры "Яны не забываюць ніколі". 1994 г.
1.15 Прэс-экспрэс.
1.25 Праграма перадач.

**Расія**

7,00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00 Весткі.
7.25 Лукамор'е.
7.50 "Шчаня і старая тапачка". Мультфільм.
8.00 Праваслаўны каляндар.
8.05 "Аншлаг" прадстаўляе.
8.35 "Страчаны капітал". "Маскоўскія гісторыі". Фільм 9-ы.
9.10—10.15 "Санта Барбара".
14.45 Залатая карта Расіі.
15.15 Тэлемагазін.
15.25 Ці-маркет.
15.30 "І гэта кіно".
16.20 Лукамор'е.
16.45 "Рыкі-Цікі-Таві". Мультфільм.
17.05 Парламенцкі веснік.
17.35 Маскоўская панарама.
17.40, 2.15 Тавары — поштай.
17.45 Прадстаўляе "Праект-арсенал".
18.00 "Санта-Барбара".
19.35 "Таксіст у Нью-Йорку". Маст. фільм (Італія).
21.10 Добры вечар.
22.35 "Страчаны капітал". "Маскоўскія гісторыі". Фільм 9-ы.
23.00 Грэка-рымская барацьба. Чэмпіянат свету.
24.00 Ціхі дом. Праграма С. Шолахава.
0.40—2.25 "Харвацкая гісторыя". Маст. фільм.

**Санкт-Пецярбург**

12.30, 15.30, 18.30, 21.30 Інфарм ТБ.
12.45 "Піўныя бароны". 5-я серыя.
13.35 Тэрмін адказу — сёння.
14.05 Парады садаводам.
14.25, 20.00 Тэлестанцыя "Мая Расія".
14.55 Ток-шоу "Наўздагад". Марк Захараў.
15.40, 20.30 Тэлеслужба бяспекі.
16.00 Музыка з Пецярбурга. Карл Оф. "Карміна Бурана".
16.40 Да 60-годдзя Палаца творчасці юных.
17.25 Тэлемагазін.
18.45 Спорт.
18.55 Вялікі фестываль.
19.10 "Піўныя бароны". 5-я серыя.
20.45 Музыка з Пецярбурга. Спявае Барбара Хендрыкс.
21.50 Спорт.
21.55—23.15 "Двое ў новым доме". Маст. фільм (Расія).

**НТБ**

5.00, 9.00 Сёння раніцай.
8.05 "Падводная лодка".
9.15 Вуснамі дзіцяці.
9.50 Навіны кіно.
10.00 "Катрын Кураж" (Францыя).
11.00, 13.00, 15.00 Сёння ўдзень.
11.15 Кэці Бэйтс у меладраме "Смажаныя зялёныя памідоры" (ЗША).
13.30 Крымінальная драма "Вогненная ўспышка" (Аўстралія).
15.30 Мультфільм "Серая шыйка".
16.00 "XX стагоддзе ў войнах". "Усходні бліц-крыг" (1939 г.—1942 г.) (ЗША).
17.00 Дыстанцыя.
17.45 Футбольны клуб.
18.00, 21.00 Сёння ўвечары.
18.40 Герой дня.
19.00 Меладрама Віталя Саломіна "Паляванне".
20.40 "Алё, Фіма".
21.45 Гадзіна серыяла. "Карункі".
22.40 Сённячы.
23.00 "Сёння апоўначы" з Аляксандрам Герасімавым.
23.25 Шоу Мікалая Фаменкі "Імперыя страсці".
0.05 Сціўен Кінг у кіно. Фільм жахаў "Дзеці кукурузы-1" (ЗША).

**8-ы канал**

18.00 Для дзяцей. "Гарзэзы".
18.30 Праграма Кенета Копланда.
19.00 Серыял "Тысячагоддзе".
20.00 Аэробіка "Новы Эдэм".
20.30 Мульт-планета.
20.45 Спорт-action, F-1, адзінаборства.
21.45 Маст. фільм "Невынішчальны", 2-я частка.

## Субота, 13 верасня

**Беларускае тэлебачанне**

8.00 Навіны (паўтор).
8.15 Здароўе.
8.45 Міжнародны кур'ер.
9.10 "Усё пра ўсё".
9.35 "Пад вуглом 23,5 градуса". Перадача 15-я.
10.00 Рэгіён. Перадача з Гродна.
10.30 Люстэрка. Праграма для жанчын.
10.50 "Універсіяда-97". Сусветныя летнія спартыўныя гульні студэнтаў у Італіі.
11.30 "Дажынкі-97". Адкрыццё Рэспубліканскага фестывалю-кірмашу працаўнікоў вёскі ў г. Масты Гродзенскай вобласці.
13.10 "Усё нармальна, мама!"
13.50 "Макаёнка, 9". Інфармацыйна-аналітычная праграма па пісьмах гледачоў.
14.10 "Музычная абойма".
14.25 Шматгалоссе. Народы Беларусі: гісторыя, культура, быт.
15.00 Навіны.
15.15 Тэлеспорт.
15.55 "Скарбніца талентаў". Тэленарыс.
16.25 "Рызыка-версія". Тэлегульня.
17.00 Беларускі дом. Мастацка-публіцыстычная праграма.
17.30 "Дажынкі-97". Трансляцыя святкавання фестывалю-кірмашу ў гаспадарках Мастоўскага раёна Гродзенскай вобласці і фальклорнага абрада "Дажынкі".
19.20 Зорная ростань.
19.50 Галерэя. Дацэнт Беларускай політэхнічнай акадэміі Лідзія Навічыхіна. Аўтарская праграма Тацяны Ягоравай.
20.20 Гісторыя кахання. Дайджэст.
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.45 Тэленавігатар.
22.05 А. Мешчаракова і М. Жыгалаў у маст. фільме "Канец бабінага лета".
23.35 Трэці тайм.
23.55 Відзьма-нявідзьма.

**ГРТ**

7.00 Камедыя "Чаромушкі".
8.40 Лота-Мільён.
8.45 Слова пастыра. Мітрапаліт Кірыл.
9.00, 14.00, 17.45 Навіны.
9.10 Хатняя бібліятэка.
9.30 Ранішняя пошта.
10.05 "Каламбур". Гумарыстычны часопіс.
10.40 Смак.
10.55 Вяртанне Трацціякоўкі. Гісторыя аднаго шэдэўра.
11.25 Сяргей Нікаменка, Яўген Еўсцігнееў у фільме "Дзіўныя людзі".
13.00 Відавочнае — неверагоднае.
13.30 "Кот у ботах", "Кот Кафеевіч".
14.20 У свеце жывёл.
15.00 Леанід Якубовіч у тэлегульні "Кола гісторыі".
15.55 Футбол. "Спартак" (Масква) — "Балтыка" (Калінінград).
17.55 Надвор'е.
18.05 Жорсткі выбар у дэтэктыўным серыяле "Строга на поўдзень".
19.45 Добрай ночы, малышы!
20.00 Час.
20.55 Нона Мардзюкова і Юрый Багатыроў у фільме "Радня".
22.50 Камедыя жахаў "Баль вампіраў".
0.35 Валейбол. Чэмпіянат Еўропы. Мужчыны. Паўфінал.
1.05 Праграма перадач.

**Расія**

7.00 Ранішні экспрэс.
7.55 Свет здароўя.
8.05 "Солці". Тэлесерыял (ЗША).
8.30 "Маркі д'ябал". Дзіцячы музычны спектакль.
9.10 Добрай раніцы, краіна!
10.00 Весткі ў адзінаццаць.
10.15 Веснік спажыўца.
10.40 "Чарадзейкі з прадмесця". Маст. фільм.
12.05 "Сіманаў і Гросман: сын і пасынак". Праграма Л. Анінскага.
12.45 Ваш партнёр.
13.00 Весткі пра...
13.20 "Арабела вяртаецца, ці Румбурак — кароль царства казак". Маст. фільм (Чэхія).
14.25 Двайны партрэт.
14.50 "Па Доне гуляе казак малады..." Кубанскі казачы хор.
15.45 Бясконцае падарожжа.
16.10 Дзённік фестывалю "Свет прыгажосці".
16.15 Мужчына і жанчына.
16.55 Рэпарцёр.
17.10 Маскоўская панарама.
17.15 Тэлескоп.
17.55 Суботні вечар з Вячаславам Палуніным.
19.00 Весткі.
19.35 Сам сабе рэжысёр.
20.10 "Дзеці". Маст. фільм (ЗША).
22.20 Момант ісціны.
23.15 Сустрэчная паласа.
23.30—0.25 Праграма "А".

**НТБ**

7.00 Музычная меладрама "Актрыса".
8.30 Мультсерыял "Назад у будучыню" (ЗША).
9.00 Сёння раніцай.
9.10 "Усяго" з Віктарам Шандаровічам.
9.30 Тэлегульня "Зразумей мяне".
10.00 Фантастычны баявік "Вайна ў космасе". 8-я серыя.
10.45 Ад "Вінта".
11.00, 15.00 Сёння ўдзень.
11.15 "Панарама" з Усеваладам Аўчыннікавым.
11.45 Крымінал. Чыстасардэчнае прызнанне.
12.00 Хакей. "Спартак" — "Дынама".
14.30 Камедыйны серыял "Караліна ў Нью-Йорку".
15.15 Зоркі ў квадраце, ці Прасцей простага.
16.00 Кінараман Савы Куліша "Жалезная заслона". Фільм 3-ці.
17.00 Дог-шоу. Я і мой сабака.
17.30 Герой без гальштука.
18.00, 21.00 Сёння ўвечары.
18.30 Лія Ахеджакава ў камедыі "Пагавары на маёй мове".
19.00 Пяць вечароў з Мэрылін Манро. Камедыя "Джэнтльмены аддаюць перавагу бландзінкам" (ЗША).
20.45 Лялькі.
21.15 Серыял па выхадных. Баявік "Дэтэктыў Нэш Брыджэс". 1-я серыя (ЗША).
22.35 "Кнопка плюс".
22.50 "Футбольны клуб" прадстаўляе чэмпіянат Расіі. 27-ы тур.
23.40 Начны канал. "Плейбой-шоу".

**8-ы канал**

15.00 Джойс Майер "Жыццё ў слове".
15.30 Дакументальны экран.
16.30 Для дзяцей "Гарзэзы".
17.00 Класіка У. Дыснея. Мультфільм "Выратавальнікі ў Аўстраліі".
18.15 Серыял "Тысячагоддзе".
20.15 Мульт-планета.
20.30 Серыял па выхадных "Лабірынты кахання".
21.30 Суперзоркі Галівуда. Том Круз.
22.00 Том Круз у маст. фільме "Інтэрв'ю з вампірам".

## Нядзеля, 14 верасня

**Беларускае тэлебачанне**

8.00 Навіны. Спецвыпуск "Дажынкі-97".
8.20 Кактэйль па нядзелях.
9.00 "Поры года. Вяргіні і яблыкі". Лірычны відэафільм.
9.25 Тэлебом.
9.55 Вяршыня свету. Тэлевіктарына.
10.30 "Дажынкі-97". Рэпартаж аб наведванні Рэспубліканскага фестывалю кірмашу Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкам.
12.00 Вяскоўцы. "Вянец жніва". Тэлеэсэ, прысвечанае рэспубліканскаму святу "Дажынкі-97".
12.35 "Усё нармальна, мама!"
13.10 Тураб'ектыў.
13.30 Арсенал. Госць студыі — галоўны спецыяліст Упраўлення па ўвекавечанню памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр войнаў Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь М. М. Ешчанка.
14.00 "Насустрач". V Міжнародны конкурс камерных ансамбляў імя М. Агінскага.
14.30 "Оскар". Тэлегульня.
15.00 Навіны.
15.15 "Дажынкі-97". "Героі жніва". Відэафільм.
15.45 "Дажынкі-97". Трансляцыя ўшанавання пераможцаў жніва і гала-канцэрта артыстаў беларускай эстрады.
20.00 Рэзананс.
20.50 Спартыўны тэлекур'ер.
21.10 Тэлебарометр.
21.25 Ток-шоу "Карамболь".
22.00 Маст. фільм "Кондар" (Венгрыя).
23.35 Абібок.
0.05 "Бархатны сезон". Музычна-забаўляльная праграма.

**ГРТ**

7.00 Сяргей Макавецкі ў фільме "Экіпаж машыны баявой".
8.05 Мультфільмы "Пунсовая кветачка", "А раптам атрымаецца!"
8.55 Спортлато.
9.00, 14.00, 23.30 Навіны.
9.15 "Бесталковыя нататкі" Дзм. Крылова.
9.30 Пакуль усе дома.
10.10 Ранішняя зорка.
11.00 Армейскі магазін.
11.30 Грай, гармонік любы!
12.00 Сельская гадзіна. Тэлечасопіс.
12.25 "Падводная адысея каманды Кусто".
13.20 Смехапанарама.
14.15 Запрашэнне да музыкі.
14.45 Клуб падарожнікаў.
15.35 "Прыгоды Вудзі і яго сяброў", "Ружовая пантэра".
16.25 "Адзін на адзін". Вядучы — А. Любімаў.
16.55 Футбольны агляд.
17.25 Надвор'е.
17.30 "Імгненні, імгненні, імгненні..." Іосіф Кабзон.
18.15 Дэтэктыўны серыял "Строга на поўдзень".
19.50 Кінаафіша.
20.00 Час.
20.40 КВЗ-97.
22.45 Валейбол. Чэмпіянат Еўропы. Мужчыны. Фінал.
23.45 Фільм Алівера Стоўна "Неба і зямля". 1994 г.
2.05 Праграма перадач.

**Расія**

7.00 Ранішні экспрэс.
7.55 Гандлёвы дом. "Ле Монці".
8.10 "Солці". Тэлесерыял (ЗША).
8.30 "Ва ўсіх на вуснах". Праграма Наталлі Дар'ялавай.
8.45 Дзённік фестывалю "Свет прыгажосці".
8.50 Добрай раніцы, краіна!
9.30 Прысяга.
10.00 Весткі ў адзінаццаць.
10.15 Рускае лато.
10.55 Без пяці дванаццаць.
11.00 Кніжная лаўка.
11.25 Чалавек на Зямлі.
11.50 "Сібірскія тыграловы" (Хабараўск).
12.10 "Вялікая бітва слана з кітом". Мультфільм.
12.20 "Шукшын і Трыфанаў". Праграма Л. Анінскага.
13.00 Весткі.
13.20 "Арабела вяртаецца, ці Румбурак — кароль царства казак". Маст. тэлефільм (Чэхія).
14.25 Майстар-ралі-97.
14.50 "Крануты", "Аладзін".
15.45 Рэпартаж ні аб чым.
15.55 Доўгань-шоу.
16.25 Футбол без межаў.
16.55 L-клуб.
17.30 "Аншлаг" прадстаўляе.
18.00 Мантсерат Кабалье ў праграме Зоркі свету — дзецям".
19.00 Люстэрка.
20.00 Старая кватэра. Год 1955.
21.00 Маскоўская панарама.
21.10 "Гарадок". Забаўляльная праграма.
21.40 "К-2" прадстаўляе: "Сюжэт".
22.35 "Масква, я думаў пра цябе..." "Маскоўскія гісторыі". Фільм 10-ы.
23.05 Грэка-рымская барацьба. Чэмпіянат свету.
0.05—1.10 "Першы паверх". Маст. фільм.

**НТБ**

7.05 Залаты патэфон.
7.30 Час "Ч" з Вольгай Кучкінай.
8.00 Навіны дня з Наталляй Антонавай.
8.15 Серада.
8.30 Мультсерыял "Назад у будучыню" (ЗША).
9.00 Сёння раніцай.
9.15 Кнопка — плюс.
9.30 Тэлегульня "Зразумей мяне".
10.00 "Вайна ў космасе". 9-я серыя.
10.45 Ад "Вінта".
11.00, 15.00 Сёння ўдзень.
11.15 Паліцэйскія будні.
11.30 Век футбола.
12.00 Сара Манцьель у музычнай меладраме "Маё апошняе танга" (Іспанія).
14.00 Свая гульня.
14.30 Маскі-шоу: выбранае.
15.30 Вуснамі дзіцяці.
16.00 Кінараман "Жалезная заслона". Фільм 4-ы.
17.00 Сёння ўвечары.
17.30 Музычная меладрама "Зорка нарадзілася" (ЗША).
20.00 Вынікі.
21.15 "Дэтэктыў Нэш Брыджэс". 2-я серыя (ЗША).
22.10 Байкі са склепа. "Пажытак для роздуму" (ЗША).
22.35 Кнопка плюс.
22.50 "Пра гэта".
23.35 Таня Робертс у эратычным трылеры "Тайнікі душы" (ЗША).

**8-ы канал**

15.00 Сёння з Мерылін Хікі.
15.30 Для дзяцей "Гарзэзы".
16.15 Маст. фільм "Суіні — падраздзяленне хуткага рэагавання", "Суіні-2".
19.45 Трукачы Галівуда.
20.15 Мульт-планета.
20.30 "Лабірынты кахання".
21.30 Фільм Ю. Азаронка "Закуліса: тайныя спружыны палітыкі".
22.15 Імперыя духу.
22.45 Знаёмства з навінкамі замежнага кіно ў праграме "Навіны К-відэа". Тэл. студыі 23-33-65.
23.15 Мультпароды Сціўена Спілберга.

# ДЛЯ ТВОРЧЫХ ЛЮДЗЕЙ НА ПЕРЫЯД З 8 ПА 14 ВЕРАСНЯ

стаць вашым "галаўным болем" на гэтым тыдні. У ягонай сярэдзіне імкніцеся выказвацца гранічна дакладна і зразумела. Спробы красамоўства і філасафавання могуць завесці ў тупік у першую чаргу вас саміх.

## Панны

На гэтым тыдні вам давядзецца папакутаваць над сваім іміджам. У першай яго палове прыслухайцеся да парадаў знаёмых, іхнія веды будуць для вас карыснымі і дасціпнымі. А вось у сярэдзіне тыдня здолейце самі правільна ацаніць уласныя патрэбы і магчымасці іх задаволіць. Гэтая працэдура дазволіць правільна разлічыць сілы і пазбегнуць знясіленасці ў выніку карпатлівай працы і, як наступства, — захаваць бадзёры знешні выгляд.

## Шалі

Вам на гэтым тыдні давядзецца глыбей, чым гэта было раней, прэпараваць глыбіні ўласнай душы. Ад таго, наколькі самастойна і шчыра гэта будзе зроблена, залежаць матывы далейшых творчых пошукаў і даследаванняў. У першай палове тыдня ўменне зрабіць выбар, не дэманструючы яго астатнім, дазволіць набыць вялікую ўпэўненасць ва ўласных творчых магчымасцях і захаваць сілы, якія для вас цяпер зусім не залішнія.

## Скарпіёны

На гэтым тыдні вам давядзецца зрабіць дакладны аналіз уласных доўгатэрміновых творчых планаў, праектаў і стасункаў з калегамі. На ягоным пачатку ваша актыўнасць можа стаць нагодай для шматабяцальнага знаёмства альбо далучэння да перспектыўнай і, магчыма, удалай задумы. У сярэдзіне тыдня засцерагайцеся задавальняць свае патаемныя страсці. Яны здольныя стварыць спрыяльныя ўмовы для нядобразычліўцаў. Імкніцеся дзейнічаць сумленна і адкрыта.

## Стральцы

Дакладна разабрацца з праблемамі ўласнага прэстыжу, папулярнасці і месца, якое вы займаеце ў грамадстве, вам давядзецца на гэтым тыдні. Ад таго, наколькі шчыра вы прааналізуеце свае прэтэнзіі на вядомасць, могуць залежаць вынікі будучых памкненняў. У сярэдзіне тыдня не дэманструйце ўласныя планы і задумы. Калі неабходна, вазьміце сабе псеўданім.

## Казярогі

На гэтым тыдні вам гранічна непажаданыя паездкі за мяжу. На працягу яго паўстане пытанне пра ўплыў іншаземных культурных каштоўнасцяў на вашыя перакананні, жыццёвую філасофію і ідэалы. Рэалізацыя некаторых уласных даўніх задум і плённыя стасункі з калегамі дазволяць лёгка перагледзець штосьці з вышэй апісанага. У сярэдзіне тыдня ўстрымайцеся ад дэманстрацыі сваіх рэгалій, — такія акцыі могуць быць няправільна патлумачаны вашым атачэннем.

## Вадалеі

Гэты тыдзень узніме перад вамі праблему перамен. Прычым не столькі саміх зменаў у розных аспектах вашай творчасці, колькі даверу да плыні жыцця і прыняцця ягоных "сюрпрызаў" без залішніх разваг і спробаў іх ацаніць. У першай палове тыдня здольнасць "трымаць нос па ветры" дазволіць умацаваць сваю папулярнасць. У яго сярэдзіне супрацьпаказаныя далёкія падарожжы, а таксама дыскусіі і балбатня на рэлігійна-філасофскую і маральную тэматыку.

## Рыбы

На гэтым тыдні вам давядзецца перагледзець сваё ўменне знаходзіць кампрамісы і цывілізавана адстойваць уласныя аўтарскія правы. Праца над уласнымі ідэаламі і ўчынкі, што робяцца згодна з вашымі маральна-этычнымі прынцыпамі, дазволяць не памыліцца пры прыняцці рашэнняў у першай палове тыдня. У яго сярэдзіне засцерагайцеся што-небудзь радыкальна мяняць, асабліва, калі падасца, што вы можаце дамагчыся дзякуючы гэтаму большай паўнаты і гармоніі. Усё гэта можа аказацца банальнай ілюзіяй.

**Аляксей КАРПІНСКІ,**
**рэферэнт "Акварыуніверсітэта".**

# У МАР'ІНАЙ ГОРЦЫ — ВЯЛІКІ ЗБОР МАЙСТРОЎ САЛОМАПЛЯЦЕННЯ



Упершыню ў краіне праведзены свята і конкурс "Саламяныя дзівосы". Праўда, пакуль што мерапрыемства мела абласны характар — разам сабраліся толькі майстры Міншчыны. Але няма ніякіх сумненняў, што свята, праведзенае ў Мар'інай Горцы, —рэпетыцыя будучага рэспубліканскага фэсту. Хацелася б, каб паранейшаму месцам яго правядзення была ўся тая ж Мар'іна Горка.

Прычыны такога жадання не толькі мясцова-патрыятычнага кшталту. Пухавіцкая раённая сталіца, а значыць яе ўлады, яе культурна-асветніцкія ўстановы зрабілі ўсё магчымае, каб свята здзейснілася. Да таго ж на Пухаўшчыне ёсць і майстры саломапляцення. Аднаму з іх нададзена высокае званне "народны". Працуе 15 самадзейных майстроў. Арганізавана 5 гурткоў для дзяцей па саломапляценні. Напярэдадні "Саламяных дзівосаў", выступаючы ў раённай газеце "Пухавіцкія навіны", дырэктар Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці Стэла Іванова заўважыла, між іншым, і наступнае: "Варта адзначыць плённую працу аддзела культуры Пухавіцкага райвыканкама па развіцці традыцыйнай культуры. У раёне займаюцца рознымі рамёствамі больш за 200 народных умельцаў, якія ўдзельнічаюць у выставах, семінарах, сустрэчах з моладдзю. Кіраўнікі гурткоў В.Дзмітрук, А.Сачак, В.Даніленка, А.Тамразаў, Л.Міхайлаўская, М.Чыбісаў і іншыя перадаюць свой вопыт і любоў да творчасці вучням".

Хто ж прадстаўляе Пухаўшчыну на конкурсе майстроў "Саламяныя дзівосы"? Святлана Анатолеўна Брын — настаўніца школы мастацтваў горада Мар'іна Горка, Вольга Аляксандраўна Дзмітрук — вядучы спецыяліст па фальклоры раённага Цэнтра народнай творчасці (з пасёлка Новая Зара), Аляксандр Уладзіміравіч Сачак — кіраўнік аб'яднання "Світанак" з Мар'інай Горкі і Наталля Мікалаеўна Патапенка — настаўніца Жораўскай няпоўнай сярэдняй школы.

Праходзіла свята наступным чынам. Пасля ўрачыстага адкрыцця на плошчы ў Мар'інай Горцы пачаўся непасрэдна конкурс майстроў саломапляцення. Ён быў разлічаны на тры гадзіны. Паралельна конкурсу працавала выстава-продаж саламяных вырабаў. На спецыяльна змайстраванай сцэне выступалі ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці Пухавіцкага, Смалявіцкага, Нясвіжскага раёнаў.

Жыхароў Мар'інай Горкі, гасцей, якія прыехалі паглядзець свята, канешне ж, уразіла агромністая палітра вырабаў з саломкі. Дзівосныя "павукі" і букеты саламяных кветак, капелюшы і лялькі-прыгажуні... Чаго толькі не здольныя вырабіць рукі таленавітых майстроў са звычайнага матэрыялу! Хаця, гэта з першага погляду салома — самы што ні ёсць трывіяльны матэрыял. На справе ж і саломку трэба ў адпаведную пару (лепей за ўсё ў гарачае, спякотнае лета нарыхтоўваць) выбраць, і абыходжання яна патрабуе асаблівага.

Вокамгненна праляцелі гадзіны конкурсу. Дасведчанае журы, на чале якога доктар мастацтвазнаўства Яўген Сахута, падвяло вынікі. У намінацыі "За зберажэнне і творчае развіццё традыцый саломапляцення" грашовую прэмію ў памеры адзін мільён рублёў атрымала Вольга Аляксандраўна Дзмітрук (з Мар'інай Горкі). Прэміі, праўда, крышачку меншага памеру, у гэтай жа намінацыі атрымалі і іншыя ўдзельнікі. А вось за творчы дэбют у галіне саломапляцення прэмію ўручылі Веры Мацнёвай (яна прадстаўляла Нясвіжскі раён). Атрымаў узнагароду і лепшы сямейны калектыў. Ім аказаліся Алі з Валожынскага раёна — Станіслава Іосіфаўна, яе дачка Тэрэза і зяць Раман. Прэміямі ў памеры чатырохсот тысяч рублёў атрымалі і аўтары лепшых саламяных капелюшоў —Аляксандр Сачак з Мар'інай Горкі і Эдуард Васілюк са Старадарожскага раёна.

Будзем спадзявацца, што ўслед за Міншчынай абласныя святы "Саламяныя дзівосы" пройдуць па ўсёй краіне. А саломапляценне стане прадметам пільнай увагі маладзейшых пакаленняў. Вучыцца ж ёсць у каго. Было б толькі жаданне.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА**

# УХАПІЦЬ ЛЕТА ЗА ХВОСТ!

32 жніўня ў Мінскім парку культуры і адпачынку імя Горкага праходзіла свята...

Даруйце. 31 жніўня...

Але памыліцца было не цяжка, і ўвогуле, не грэх. Бо,— не перабольшу, калі скажу, што ўся публіка, якая шпацыравала па сцежках і плошчах парка, марыла падоўжыць цудоўную летнюю пару, жадала пакінуць сябе хоць яшчэ на адзін дзень у той бестурботнай лагодзе, якую дае сезон вакацый. Публіка чакала цуду. І ён адбыўся! Знячэўку, неяк незаўважна, адкульсьці прыляцела казка. Музычная казка, якая ўвіравала ў сябе спачатку ўсіх дзетак, а пасля, па нарастаючай, падлеткаў і дарослых. І як жа было ўстрымацца і не паддацца, калі дзейнічалі сапраўдныя Кароль і Каралева, Чорны кот, Спякотны дзень, Трапіканка.

— Ідэя была наступная, — кажа арганізатар, рэжысёр свята, мастацкі кіраўнік парка Наталля Кукушкіна. — Мы хацелі стварыць у парку каралеўства "Жнівень 32-га." Якраз у гэты дзень у каралеўстве надыходзіць Новы год. Таму была елка з рознакаляровымі забаўкамі. І што ж, усе былі задаволеныя. Бацькі ўсёй грамадой, хорам, пыталіся, а калі яшчэ будзе нешта падобнае? То была самая лепшая падзяка. Хаця за вонкавай лёгкасцю свята ўсё ж такі ляжаць вялікія клопаты: трэба было знайсці людзей, напісаць сцэнар, прыдбаць касцюмы і адшукаць спонсараў.

Аднак, нягледзячы на ўсе арганізацыйныя цяжкасці, якія падпільноўвалі ўдзельнікаў і стваральнікаў свята, яно адбылося на добрым узроўні.

Што ж, лета не закончылася, яно працягваецца! А якое ж лета без звону гітары і песні? Таму пасля казкі ў парку распачаўся фестываль аўтарскай песні. Але, напэўна, гэта быў самы дэмакратычны, самы свабодны фестываль. Удзельнічаць у ім мог кожны, хто захоча. Трэба было толькі папярэдне запісацца і ўспомніць хаця б дзве песні. Лепей, безумоўна, каб яны былі напісаныя самімі выканаўцамі. Бо строгае журы, у склад якога ўваходзілі тэатральны рэжысёр Валянціна Цагойка, старшыня Мінскага клуба гітарыстаў Алег Капенкаў, кіраўнік студыі гітарыстаў Сяргей Кабанаў і паэт, бард Серж Мінскевіч, прысуджвалі балы толькі за аўтарскія песні. Але па-за конкурсам можна было выступіць і з чужымі творамі. Нейкі адважны хлопец, узброены толькі адной акустычна-палісаднай гітарай, замахнуўся на творчасць рок-гурта "Metallica". Гітарныя жарсці доўжыліся з 16 да 19 гадзін і нават дождж не астудзіў іх, а, наадварот, выклікаў цэлы шквал песень пра сябе, таму, мабыць, ён нарэшце супакоіўся і дазволіў правесці пасля бардаўскага фестывалю дыскатэку.

Ну, а пераможцамі, напрыканцы доўгіх і бурных дэбатаў, журы вызначыла не трох канкурсантаў, як планавалася, а чатырох. Заахвочвальны прыз — блок слоікаў з малаком какоса і бутэльку мінеральнай вады "Усмешка" атрымаў Аляксей Звягін, аўдыёплеер за трэцяе месца — Даша Пытліва, аднакасетны магнітафон "Эльта" за другое месца — Дзмітрый Варабей, а гран-пры і двухкасетны магнітафон "Эльта" дасталіся Андрэю Маляўскаму.

Усе астатнія ўдзельнікі атрымалі ў якасці прыза порцыю добрага настрою і радасці, а таксама слоік з какосавым малаком і бутэльку з "Усмешкай". Асобна хацелася б адзначыць першага ўдзельніка канцэрта Аляксея Скрыпніка, які са сваімі мілагучнымі рамансамі адкрываў свята. І ўявіце, як гэта не проста было зрабіць перад маладзёжнай рэйверскай тусоўкай! Увогуле актыўнасць, рашучасць і мужнасць выступоўцаў часам здзіўлялі. Колькі трэба было мець смеласці, каб, нядаўна навучыўшыся браць самыя простыя акорды на гітары, з толькі-толькі народжанай у альтанцы ці скверыку песняй і фактычна без падрыхтоўкі выступаць перад вялікай аўдыторыяй гледачоў. Так, імпэту ў сучаснай моладзі больш, чым два — тры гады таму.

У паўзах паміж выступленнямі адбывалася дэманстрацыя адзення крамы "BIG STAR", спонсара фестывалю, якую праводзілі дзяўчаты і хлопцы з агенцтва фота-мадэлей Ягора Міляя. Дэвіз іх выступленняў — "Каб усім было весела". Так яно і было.

Пасля лірычных бардаў на цэнтральную сцэну парка імя Горкага выйшла мінская каманда КВЗн пад яскравай назвай "ЧП". Ах і смачныя, вох і салёненькія, ух і пярчоненькія, уф і едкія ў іх жарцікі. Усё б нічога, але вось вядучы-завадатар каманды ўжо вельмі прыкідваецца вядучым тэлепраграмы на НТБ "Імперыя Страсці" Мікалаем Фаменкам. Няўжо нельга знайсці сабе ўласны імідж?

Заканчваўся 32-гі дзень жніўня дыскатэкай "Лімпапо", вёў яе чарнаскуры хлопец з самага паўднёва-афрыканскага поўдня... Масквы. Узнікае справядлівае пытанне, ці нашмат вышэй узровень гэтай дыскатэкі за нашыя мінскія, каб выгодна было выпісваць з экзатычнай далечыні ды-джэя. Але гэтае пытанне пакінем адкрытым.

А вось іншае: "Ці атрымалася свята, прысвечанае 32-му дню жніўня?", не вагаючыся, закрыем вялікім станоўчым адказам "ТАК". Усім, хто пабываў у гэты дзень у парку імя Горкага, лета-97 запомніцца сваім мажорным завяршальным акордам, складзеным са станоўчых эмоцый і пачуццяў.

**Сымон ПТАХ**



*На здымку Генадзя ЖЫНКОВА — пераможца фестывалю аўтарскай песні "32 жніўня" Андрэй МАЛЯЎСКІ.*

# "МОЙ ПРЫНЦЫП: НЕ СХЛУСІ!"

***Сярод творцаў ёсць лідэры, якія валодаюць талентам і высокім прафесіяналізмам. У творчасці не здараюцца выпадковасці, вяршыні бяруцца натхненнем і працаю. Пра гэта яскрава сведчыць і лёс актрысы Брэсцкага тэатра драмы і музыкі Тамары Ляўчук, якая сёлета атрымала прэмію "Берасцейскія зоркі". А самай вялікай удачай актрысы стала роля Наталлі Пятроўны ў спектаклі па п'есе Тургенева "Месяц у вёсцы", які стаў лаўрэатам Першага міжнароднага фестывалю "Белая Вежа-96".***

**— Тамара Барысаўна, цяпер вы ў тэатры прымадонна, вам давяраюць самыя вялікія і складаныя ролі. Які ваш галоўны прынцып стварэння мастацкага вобраза на сцэне?**

— У нашым тэатры шмат таленавітых акцёраў, таму вялікія ролі давяраюць не толькі мне. А наконт таго, як працую над стварэннем ролі, магу сказаць наступнае: у працэсе рэпетыцый я стараюся ўжывацца ў вобраз паступова. Галоўны мой прынцып: не схлусі!

**— А што для вас тэатр?**

— З тэатрам я павенчаная назаўсёды. У маладосці прыйшла ў яго, як у храм мастацтва, які існуе для мяне. І толькі з узростам зразумела, што ўсё наадварот: гэта я існую для яго. Па характары я чалавек пастаянны, таму з упэўненасцю магу сказаць, што па ўласнай волі я з тэатра не пайду.

**— Хіба ніколі ў вашым жыцці не ўзнікаў крызіс: тэатр або іншы шлях?**

— Цяжкасці былі на самым пачатку, калі я пасля заканчэння Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута прыйшла на працу ў гэты тэатр. Чамусьці мяне варожа ўспрыняла жаночая палова трупы. Аднойчы нават замкнулі ў прыбіральні, зразумела, у выхаваўчых мэтах. Але паступова ўсё наладзілася. Маімі настаўнікамі і дарадцамі сталі выдатныя акцёры Ганна Васілеўна Качаткова і Анатоль Канстанцінавіч Логінаў. Гэта былі майстры высокага класа і цудоўныя людзі, я ім заўсёды буду ўдзячная.

**— З якіх спектакляў пачыналася ваша акцёрская кар'ера?**

— Спачатку я іграла ў спектаклях "Няроўны шлюб" і "У ноч зацмення месяца", пазней мне даверылі сур'ёзную ролю Белкінай у спектаклі "Беражыце белую птушку" па п'есе Георгія Волкава. З гэтым спектаклем мы ездзілі на гастролі ў Мінск, і вядомы педагог і рэжысёр Маланкін сказаў тады пра мяне, што ў Брэсце нарадзілася новая актрыса...

**— Як у вас, вясковай дзяўчынкі, узнікла жаданне стаць актрысай?**

— У маленстве мне даводзілася шмат працаваць на гаспадарцы. Адзінай забавай было кіно, пазней з'явіўся тэлевізар, дарэчы, менавіта ў нашай хаце першы на ўвесь пасёлак, а жылі мы каля чыгуначнай станцыі Высокалітоўск. У самым раннім дзяцінстве хацела стаць лётчыцай, пазней — балерынай, а ў рэшце рэшт паехала вучыцца на артыстку, магчыма, з-за актыўнага ўдзелу ў мастацкай самадзейнасці школы.

**— Акцёр залежыць ад рэжысёра, аднак ён неабходны акцёру як лоцман, які паказвае шлях для рэалізацыі сумеснай задумы. Ці быў у вас любімы рэжысёр?**

— Такім рэжысёрам для мяне была Таісія Белічэнка. З ёю я набывала прафесіяналізм, адбывалася маё станаўленне як асобы і актрысы. Хоць здаралася так, што адчувала ціск яе аўтарытэту, нават яе глыбокага адчування драматычнага матэрыялу. Падабалася мне працаваць з рэжысёрамі Сяргеем Еўдашэнкам і Рыдам Таліпавым, якія вельмі беражліва ставяцца да акцёраў. І гэтыя любоў і павага нараджаюць у акцёра вялікую веру ў сябе. Прызнаюся, што пасля з'яўлення на свет другой дачкі я не вельмі ўпэўнена адчувала сябе: вярнуць ранейшую рабочую форму мне дапамог спектакль "Пад адным дахам" па п'есе Разумоўскай. Ішоў ён на малой сцэне, якая дае магчымасць для імправізацыі. І, вядома ж, рэжысёр Сяргей Іванавіч Еўдашэнка вельмі паспрыяў мне ў аваладанні гэтым матэрыялам і новай сцэнічнай прасторай.

**— У вас дзве дачкі. Як вы выхоўваеце іх?**

— Старэйшая, Насця, вучыцца ў Мінску ў Лінгвістычным універсітэце, малодшая, Хрысціна, скончыла першы клас. Каб дзеці выраслі добрымі, трэба іх любіць.

**— Тамара Барысаўна, цяпер вы дасягнулі вядомасці, вас пазнаюць на вуліцах. Пра што марыце, чаго яшчэ жадаеце для сябе?**

— Тэатр заўсёды будзе патрэбны людзям, бо тут праз жывога акцёра душа гледача пасяляецца ў атмасферу саўдзелу, ачышчэння, спачування. У тэатр ходзяць не для таго, каб пазбыцца грахоў, а для таго, каб пазбегнуць іх. Маё жыццё неаддзельнае ад тэатра, таму хочацца цікавай драматургіі, таленавітых і розных рэжысёраў, уважлівага гледача. Канешне, умовы жыцця акцёраў яшчэ далёкія ад ідэальных, а хацелася б, каб яны мелі зарплату, на якую маглі б годна жыць з сям'ёй, забяспечыць сябе прыстойным жытлом і ўсім неабходным для цывілізаванага існавання. Будзе добра тэатру, буду шчаслівая і я.

**Размаўляла Зінаіда ДУДЗЮК**





*На фота: сцэна са спектакля "Дамы і гусары". У ролях —Тамара Багрэева, Дзіна Дойбан і Тамара Ляўчук; сцэна са спектакля "Цыліндр". У ролях — заслужаны артыст Беларусі Генадзь Токараў і Тамара Ляўчук.*

# СУСТРЭЧЫ Ў МРАНГОВЕ

З 14 па 17 жніўня ў Польшчы праходзіў III фестываль культуры "Kresowe" "Мрангова-97", дзе бралі чынны ўдзел выканаўцы са Славакіі, Чэхіі, Летувы, Украіны, Беларусі. Адметна, што акрамя калектываў спевакоў, танцораў, артыстаў тэатра, тут поплеч працавалі аб'яднаныя творчыя групы паэтаў, мастакоў і народных майстроў.

Беларусь на гэтым фэсце прадстаўлялі вакальна-харэаграфічныя калектывы "Каралінка" з Брэста, "Крэсавянка" з Івянца, "Салавейкі" з Гродна, якія дамагліся вялікай папулярнасці сярод насельніцтва, у склад якога ўваходзіць значная частка выхадцаў з Гродзеншчыны, Віцебшчыны, Віленшчыны і Міншчыны.

На выставе народнага мастацтва вылучаліся сваёй рэгіянальнай адметнасцю тканыя ручнікі Марыі Лабун, фляндраваны ганчарны посуд Антона Пракаповіча, ляпная пластыка з гліны Юрыя Чараповіча з Івянца. Цікавыя традыцыйныя вырабы з саломкі і лёну прадставілі Алена і Ганна Бурбліс з Ліды. Унікальную калекцыю драўляных музычных інструментаў, выробленых уласнымі рукамі, дэманстраваў гродзенскі майстар-самавук і музыка Мар'ян Скрамблевіч.

Вялікую цікавасць да народнай творчасці былых ускраін Польшчы праявілі шматлікія польскія навукоўцы. Склад журы быў укамплектаваны аўтарытэтнымі спецыялістамі розных творчых амплуа.

Польскае тэлебачанне рэгулярна вяло прамыя рэпартажы з месца падзей. На кірмашах можна было набыць арыгінальныя вырабы народных майстроў, жывапісныя і графічныя творы мастакоў.

Па маіх назіраннях, народная творчасць і прафесійнае мастацтва былых "Крэсаў" развіваецца ў рэчышчы мясцовых традыцыйных нацыянальных школ. Напрыклад, нельга зблытаць работы разьбяроў з Летувы ці Польшчы або тканыя вырабы з Беларусі ці Украіны і г.д.

Нават у выканаўцаў фальклорных песень на польскай мове адчуваецца ярка выражаная адметнасць моўных дыялектаў — горскі, львоўскі, віленскі і іншыя.

Увесь час знаходжання ў Польшчы ўдзельнікам спадарожнічала непадробна-шчырая гасціннасць арганізатараў фестывалю і добразычлівасць насельніцтва мястэчка Мрангова, што ў Альштынскім ваяводстве. Высокі ўзровень арганізацыі мерапрыемства, змястоўнасць і шматграннасць праграмы, творчыя кантакты прынеслі неацэнны плён, надалі творчы імпульс творцам.

**Алег РАМАНОЎСКІ**
Івянец — Мрангова — Івянец

# "КОЛА" — ТАМУ, ШТО ЎСЕ РАЗАМ



З кастрычніка Творчае аб'яднанне праграм для дзяцей і юнацтва Беларускага тэлебачання распачне вельмі цікавую акцыю, якая пройдзе пакуль па раёнах Магілёўскай вобласці (надалей плануецца і па іншых). Стваральнікі праграмы "Белая каралева" разам з артыстамі ТЮГа Аленай Шабат і Яўгенам Піменавым наведаюць з канцэртамі дзіцячыя дамы.

Многія цыклы Творчага аб'яднання праграм для дзяцей і юнацтва Беларускага тэлебачання па-ранейшаму збіраюць шматлікую аўдыторыю і высока ёю ацэньваюцца. У першую чаргу гэта — "Мульціклуб", "Тэлебом", "Калыханка", "Усё пра ўсё", "Тэлекшоу" і інш. У першым квартале 1997 года дзіцячай рэдакцыяй БТ было атрымана больш за тысячу лістоў — гэта сведчыць аб добрай "зваротнай сувязі" з гледачамі!

Аб дзейнасці Творчага аб'яднання праграм для дзяцей і юнацтва Беларускага тэлебачання наступная размова.

**Таццяна Сяменчанка, галоўны рэдактар аб'яднання:** Наша дзіцячая рэдакцыя існуе даўно, 40 гадоў таму, калі стваралася тэлебачанне, адной з першых была створана дзіцячая рэдакцыя. Але мы з Таццянай Кіракозавай, мастацкім кіраўніком аб'яднання, да кіраўніцтва нашай рэдакцыяй прыступілі 3 гады таму. Да гэтага мы працавалі на тэлебачанні шараговымі супрацоўнікамі. Самым галоўным для нас стала пераўтварыць рэдакцыю такім чынам, каб былі калі не штодзённыя, то нейкія стабільныя эфіры. Раней было шмат розных праграм, якія выходзілі ў адвольныя тэрміны, у праграм былі розныя назвы, розная працягласць. Не было дакладнай сеткі вяшчання, а каб не стварыць, патрэбны былі новыя праграмы, якія выходзілі б стабільна, каб іх ведалі гледачы, патрэбны былі брыгады, якія дастаткова доўга займаліся б гэтымі праграмамі і давалі б добрыя вынікі. На гэта ў нас і пайшлі тыя тры гады. Зараз у нас ад 10 да 13 цыклаў — для кіраўніцтва тэлебачання лепш, каб у нас было менш цыклаў, а праграмы выходзілі штодзённа. Але ў нас усё ж дзіцячая аўдыторыя і праграмы трэба дыферэнцаваць: для дашкольнікаў адныя праграмы, для сярэдняга ўзросту, для старэйшых класаў іншыя, хтосьці захапляецца матэматыкай, хтосьці літаратурай — зрабіць адну або дзве-тры праграмы для ўсіх проста немагчыма. Таму мы спрабуем рабіць самыя розныя перадачы.

Асноўныя нашыя праграмы выходзяць па выходных днях, каб дзеці маглі іх глядзець разам з бацькамі, а потым яны паўтараюцца па працягу тыдня.

**Міхась Башура:** Ці ёсць нейкі рэйтынг папулярнасці праграм?

**Т.С.:** Рэйтынг — справа адносная. У апытаннях, якія праводзіліся спецыяльна па нашых праграмах, першыя месцы займаюць "Мульціклуб", "Тэлебом", "Калыханка". Канечне, вельмі прыемна, калі нашыя праграмы трапляюць і ў дарослыя рэйтынгі. Але нельга арыентавацца па гэтых рэйтынгах, таму што ёсць такія праграмы, як "Напярэдадні будучыні", "Насустрач" — асветніцкія праграмы. Існуе сярэдні ўзровень зацікаўлення тэлебачаннем — да яго ставяцца, як да забавы. Тады самая папулярная праграма — кліпы MTV. Раней у нас было шмат перадач, — з чым мы моцна змагаліся, — якія былі літаральна перанасычаны кліпамі замежных выканаўцаў. Іх рабілі, таму што лічылася, што гэта падабаецца дзецям. Але задача наша ў тым, каб выхаваць дзяцей, нечаму іх навучыць, гэта вельмі складана, а, як вядома, дзеці шмат часу праводзяць каля тэлевізара.

Адным з дасягненняў нашай рэдакцыі мы лічым цыкл праграм "Жылі-былі" творчай майстэрні "Кола".

Таццяна Кіракозава сабрала дзяцей, чатыры гады з імі працавала, і мы паказалі, на што яны здольныя. Гэта былі не проста перадачы, а праграмы па развіцці здольнасцей дзяцей. Дзеці былі сабраныя самыя розныя — бацькі прывозілі іх з усіх раёнаў Мінска па аб'яве.

**Таццяна Кіракозава, мастацкі кіраўнік аб'яднання:** Тры гады таму мы пачалі з таго, што зрабілі "Калядныя сустрэчы" — сабралі дзяцей, сабралі людзей, якія працуюць з дзецьмі, і зрабілі невялікае свята. І далей глыбіннай мэтай паставілі сабе сабраць вакол рэдакцыі дзяцей і дарослых, якія жывуць нейкім адметным творчым жыццём. І зараз атрымліваецца, што наша мара здзяйсняецца — у рэдакцыі наладжваюцца выдатныя сувязі. Гэта я лічу нашым найвялікшым дасягненнем. І гэтыя дзеткі таксама прыйшлі да нас, прыйшлі такія напалоханыя, нясмелыя... Самае страшнае — гэта страх, які ў кожнага з нас з дзяцінства запіхваюць. І самае першае, пра што я спыталася ў дзяцей, калі яны прыйшлі, гэта — што яны бачылі па дарозе да нас. І адна дзяўчынка сказала, што яна нічога не бачыла, і заплакала. І тады я пачала выдумляць, што я бачыла, каб неяк ускалыхнуць іх уяўленне. На наступны раз яны ўжо мне нешта расказвалі. І так мы рабілі на кожных занятках: расказвалі, гулялі, малявалі, пісалі. Я спрабавала разбурыць іх прывычнае, звычайнае ўяўленне і прымусіць глядзець на свет інакш. З цягам часу мне гэта ўдавалася ўсё больш і больш. Напачатку, калі мы сабраліся, у нас не было задумкі здымаць, але потым гэтым ужо можна было займацца, і мы вырашылі зрабіць праграму "Жылі-былі" — усе мы жывём і ўсе паміраем, а што пасля нас застаецца? Галоўным прынцыпам гэтай праграмы была імправізацыя. І мы нагогул не ведалі, што з гэтага атрымаецца — магло нічога не атрымацца. Потым нашу праграму бачылі немцы і не маглі паверыць, што дзеці нічога не завучвалі напамяць, а гавораць ад сябе. Яны ўжо гэта могуць, яны адчуваюць сябе вольна. І гэта сапраўды наша галоўнае дасягненне.

**Міхась БАШУРА**

ЖНІВЕНЬ-ВЕРАСЕНЬ
ПРАЗ ПРЫЗМУ "БАГЕМНАГА" ШКЛА:
АПРАБАЦЫІ
АВАЦЫІ
АНТУРАЖ
АЖЫЯТАЖ

# ПАЛІТРА МАСЛЕНІКАВА — У "ПАЛІТРЫ" МАГІЛЁВА

***1 верасня ў Магілёве ва ўрачыстай атмасферы ў прысутнасці вялікай колькасці ўдзельнікаў адбылося адкрыццё помніка-бюста вядомаму жывапісцу, мастацтвазнаўцы, педагогу, грамадскаму дзеячу, народнаму мастаку Беларусі, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі краіны Паўлу Васілевічу Масленікаву.***

***Адразу ж пасля гэтага адкрылася і мемарыяльная карцінная галерэя яго імя на базе цудоўнага будынка Магілёўскага абласнога мастацкага музея. Падзея па сваёй значнасці унікальная для культурнага жыцця Беларусі.***

Па сутнасці, гэта першы музей такога кшталту на Беларусі, дзе сабраныя не толькі больш за сто жывапісных палотнаў і тэатральных эскізаў П.Масленікава, перададзеныя мастаком незадоўга да яго смерці ў дар гораду, але і яго асабістыя рэліквіі — эцюднік, палітра, пэндзлі, апошні няскончаны пейзаж на мальберце, атрыбуты побыту мастака і чалавека...

Тут, на Магілёўшчыне, у вёсцы Нізкая Вуліца, прайшло маленства будучага пейзажыста. Прыгожыя берагі ракі Лахвы, высокія ўзгоркі і пакручастыя схілы, сонечныя бярозавыя гаі і задумлівыя сасновыя лясы сталі той самай асновай творчасці Паўла Васілевіча, якая праз гады ператварылася ў пранізлівую жыццесцвярджальную Песню — ухваленне роднай Беларусі.

Унікальнасць падзеі яшчэ і ў тым, што такога кшталту "персанальная" галерэя, цалкам прысвечаная жыццю і творчасці нашага сучасніка-мастака, з'явілася ў краіне ўпершыню. І гэта добры прыклад для пераймання іншым гарадам Беларусі, з якімі звязаны імёны нашых выдатных суайчыннікаў, майстроў культуры, якія з розных прычын сёння напаўзабытыя...

І ў сувязі з гэтым хочацца сказаць добрыя словы ў адрас кіраўнікоў вобласці і горада Магілёва, у прыватнасці, старшыні аблвыканкама Аляксандра Кулічкова, старшыні гарвыканкама Дзмітрыя Сівіцкага, старшыні райвыканкама Пятра Кандратава, начальніка Упраўлення культуры вобласці Міхаіла Дражкова і іншых, хто разумее, што чалавечае жыццё не абмяжоўваецца толькі хлебам надзённым, што без высокай духоўнасці не будзе паўнавартаснай нацыі, што культура павінна быць неаспрэчным прыярытэтам сярод адвечных сацыяльных і эканамічных праблем, і што, у рэшце рэшт, усё гэта — і музеі, і мемарыялы, і карціны, і галерэі — для людзей. Сённяшніх і тых, хто народзіцца заўтра. У гэтым вечная духоўная повязь часоў...

Пра гэта мы ўсе, вялікая група мастакоў і журналістаў, якія прыехалі на свята, думалі, аглядаючы экспазіцыю выставы П.Масленікава. Пра гэта думалі, узіраючыся ў экспазіцыю твораў Анатоля Бараноўскага, што размясцілася ў гэтым жа музеі.

Пра гэта думалася і пры аглядзе Магілёўскага краязнаўчага музея...

І стоячы каля новага помніка-бюста нашаму мэтру жывапісу, мы таксама думалі пра гэта. Пра сувязь пакаленняў, традыцый, часоў.

Помнік зроблены паводле праекта вядомага беларускага скульптара, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Уладзіміра Летуна і архітэктара Уладзіміра Чаленкі.



Усе, хто прысутнічаў на свяце, адзначылі высокія прафесійныя вартасці помніка, у якім удала сінтэзаваліся рамантычная эмацыйнасць вобраза з дакладнасцю і глыбінёй інтэрпрэтацыі характару мадэлі. У.Летун пераканаўча прадэманстраваў пластычнымі сродкамі той факт, што нават у помніку-бюсце можна дамагчыся шматслойнай змястоўнасці.

**Наш кар.**



*Павел Масленікаў. Аўтапартрэт. Палатно, алей, 1940 г.*

*Абласная карцінная галерэя імя П.В.Масленікава*





М.Дабужынскі. "Віцебск, лесвіца." 1923 г.

# У ВІЦЕБСКУ ЁН ШУКАЎ ДУШЭЎНУЮ РАЎНАВАГУ...

*(Заканчэнне. Пачатак у нумары 34)*

Нам невядомая сапраўдная прычына замены Шагала на пасадзе дырэктара школы Дабужынскім, не ведаем мы і таго, ці прыехаў ён у Віцебск па сваёй волі альбо па запрашэнні. Хутчэй за ўсё, у гэтым "вінаваты" сам Шагал: Марк Захаравіч быў адным з лепшых вучняў Дабужынскага яшчэ ў пецярбургскай прыватнай школе малявання Званцавай (1908 — 1910).

Якім дырэктарам і кіраўніком майстэрні быў Дабужынскі, нам таксама невядома. Дакументаў і ўспамінаў на гэты конт не засталося. Да таго ж, на гэтых пасадах мастак прапрацаваў зусім нядоўга: каля чатырох месяцаў, а не год, як лічаць некаторыя мастацтвазнаўцы, у тым ліку і В.Шматаў. Праўда, у мяне ў архіве захаваўся запіс маёй гутаркі з вядомым казахскім мастаком, ужо нябожчыкам, Валянцінам Іосіфавічам Антошчанкам-Аленевым, з якім мяне некалі пазнаёміў Уладзімір Стальмашонак.

У 1918 годзе Антошчанка-Аленеў прыехаў у Віцебск у якасці целаахоўніка Шагала. Хадзіў па горадзе ў матроскім бушлаце, падпясаны кулямётнай стужкай і з рэвальверам, натуральна, з Маркам Захаравічам. Ад прыроды ён добра маляваў і амаль год вучыўся ў Шагала. Наведваў розныя майстэрні шагалаўскіх калег — у якасці стараннага вучня ці проста як наглядальнік. Ён распавёў, як двойчы ўзімку 19-га разам з Шагалам прысутнічаў на занятках Дабужынскага ў вучэльні. І там ад дапытлівых і цікаўных вучняў пачуў, што Мсціслаў Валерыянавіч ужо ў чатырохгадовым узросце намаляваў каляровымі алоўкамі шклянку чырвонай гарбаты з блакітнай лыжкай. Аднак, убачыўшы, што лыжка ў шклянцы праламляецца, адлюстраваў гэта на малюнку; а ў пяць гадоў навучыўся перадаваць перспектыву. Яшчэ Антошчанка-Аленеў даведаўся, што маці Дабужынскага спявала ў тэатрах Пецярбурга, Казані і Кіева, а бацька, які быў афіцэрам, наведваў лекцыі ў Пецярбургскім універсітэце, цікавіўся заалогіяй і мастацтвам.

Што яшчэ запомніў Антошчанка-Аленеў? На ўроку "таварыш Дабужынскі" прапанаваў такую тэму: упісаць у квадрат чалавечую постаць. Узораў ніякіх не было, і задача павінна была вырашацца кожным цалкам самастойна. Калі праца была скончана, аказалася, што ўсе вучні вырашылі яе па-рознаму. Мсціслаў Валерыянавіч разбіраў кожны варыянт, і "ўсе слухалі і вучыліся на вопыце аднаго, гэтаксама, як усе яны служылі вопытам гэтаму аднаму..."

Ёсць дадзеныя, што Дабужынскі браў удзел і ў арганізацыі Віцебскага мастацкага музея (з трох аддзелаў — гістарычнага, сучаснага мастацтва і абразоў) і музея старога Віцебска. І той, і другі музеі ствараліся на базе прыватных калекцый, што былі нацыяналізаваныя пасля Кастрычніцкага перавароту.

Што з'явілася прычынай паспешлівага ад'езду Дабужынскага з Віцебска ў Петраград — невядома. На гэты конт існуе шэраг версій, сярод якіх ёсць і зусім абсурдныя. Напрыклад, І.Абрамскі, які ў той час вучыўся ў Віцебску, узгадвае праз сорак пяць гадоў: "Мастацкую вучэльню Малевіч літаральна развaліў. З-за яго паехаў з Віцебска М.В.Дабужынскі, які лічыў для сябе немагчымым працаваць з гэтым істэрыкам, які рабіў уражанне ці то ненармальнага чалавека, ці то авантурыста. Да таго ж, нягледзячы на ўсе свае разумныя артыкулы, Малевіч быў малакультурным чалавекам" ("Гэта было ў Віцебску", часопіс "Искусство", 1964, № 10, стар.71).

Пакінем на сумленні аўтара ягоную вострую нянавісць да К.Малевіча, але што да ад'езду Дабужынскага, дык... Мсціслаў Валерыянавіч паехаў з Віцебска ў красавіку 1919 года за паўгода да з'яўлення Малевіча ў гэтым горадзе! І іхнія шляхі ніколі не перакрыжоўваліся...

Вось такімі бываюць "дакладныя" мемуары "відавочцаў" ды "сведкаў"... Апошнюю ўзгадку пра знаходжанне Дабужынскага ў Віцебску мы знаходзім 10 красавіка 1919 года ў гэтым жа "Витебском листке", дзе Мсціслаў Валерыянавіч адзначаны ў спісе сяброў Калегіі пададдзела выяўленчых мастацтваў.

Г.Чугуноў лічыць, што Дабужынскі "пайшоў з інстытута" (вучэльні. — Б.К.) у сувязі са складанымі ўмовамі ягоных паездак з Петраграда ў Віцебск". Гэта бліжэй да ісціны. Справа ў тым, што мастак жыў нібы на "два дамы": ягоная сям'я — жонка Лізавета Восіпаўна, сын Расціслаў і дачка Вера знаходзіліся ў Петраградзе. У Віцебску — ягоны бацька, які быў эвакуяваны сюды з Вільні ў сувязі з захопам гэтага горада палякамі. Акрамя таго, у Петраградзе Дабужынскага чакалі некалькі спектакляў, якія ён павінен быў аформіць, у тым ліку "Дантон" Леўберга, "Разбойнікі" Шылера, "Кароль Лір" і "Макбет" Шэкспіра, "Фауст" Гуно, "Севільскі цырульнік" Расіні, а таксама ўласныя інсцэніроўкі казак Андэрсена для тэатра-кабарэ "Прывал камедыянтаў"... А тут яшчэ хвароба любімай дачкі Верачкі, якая памерла ў 18-гадовым узросце ў тым жа, 1919 годзе... Карацей, той год быў для Дабужынскага вельмі няпростым і "незабыўным" ва ўсіх сэнсах.

Адразу пасля прыезду ў Петраград ён быў абраны прафесарам кафедры дэкаратыўнага мастацтва мастацкага факультэта пры інстытуце фатаграфіі і фотатэхнікі. Адначасова ён пачаў весці заняткі ў прыватнай мастацкай школе А.Гауша. Праўда, ёсць сведчанні, што ў пачатку 20-х гадоў Дабужынскі некалькі разоў наведваў Віцебск для чытання лекцый па гісторыі мастацтваў у мясцовай кансерваторыі. Але асабіста я такіх дакументаў не сустракаў...

Віцебск перыяд у творчасці Мсціслава Валерыянавіча адзначаны стварэннем цэлай серыі гарадскіх пейзажаў — найтанчэйшых акварэляў і далікатных алоўкавых малюнкаў, а таксама эскізаў дэкарацый да пасяджэння, прысвечанага памяці К.Лібкнехта, у тэатры і да аматарскага спектакля навучэнцаў народнай мастацкай школы (студзень 1919 года). Сярод віцебскіх пейзажаў — "Віцебск. Вуліца", "Віцебск. Двор", "Віцебск", "Віцебск. Бераг Дзвіны", "Віцебск у снезе", "Віцебск. Дахі", "Віцебск. Лесвіца", "Віцебск. Рэчка Віцьба", "Віцебск. Сабор з узбярэжжам", "Віцебск. Цэрквы", а таксама аловачны партрэт бацькі — В.П.Дабужынскага. Да некаторых віцебскіх сюжэтаў мастак вяртаўся і пазней, ужо жывучы пастаянна ў Петраградзе.

Галоўны прыём Дабужынскага ва ўсіх ягоных творах — наладжванне лінейна-жывапіснага рытму на паверхні. Ён выкарыстоўвае вельмі мяккі, плоска завостраны аловак, якім ён мог напісаць і тонкія, і шырокія "жывапісныя" штрыхі. Лінія набывае неабходную мяккасць, але яна магла быць рэзкай і моцнай. Некалькі штрыхоў мастаку было дастаткова для выказвання адчування спакою альбо няўрымслівага руху, пяшчоты, альбо трывогі.

Вось толькі некалькі сюжэтаў.

... Ускраек гораду. Драўляныя дамкі ля гасцінца, злева светлыя сцены мураваных будынкаў на ўзгорку. Перспектыўную глыбіню малюнка акрэслівае сілуэт віцебскай ратушы на гарызонце. Смелыя, абагульняючыя штрыхі зроблены рукой першакласнага майстра, лінеарная манера малюнка цудоўна адпавядае музыцы ціхага гарадскога пейзажа. Тут няма нават і ценю таго змрочнага настрою, што так часта прысутнічае ў ранніх гарадскіх пейзажах "рабочых ускрайкаў" Лондана, Амстэрдама альбо Гаагі.

І ў творы "Віцебск. Лесвіца" сюжэт найпрасцейшы: з высокага берага ўецца да Дзвіны жывапісная драўляная лесвіца. За плотам — выразныя сілуэты старых дамкоў. І ўсё. Але як гэта пададдзена!

А вось тая самая віцебская лесвіца, напісаная праз чатыры гады, ужо ў Петраградзе. Кампазіцыйны матыў застаўся ранейшым, але толькі замест дня Дабужынскі адлюстраваў вечар, дакладней, позні надвячорак. Па цёмным, загадкавым небе плыве месяц, перарэзаны хмаркай. Унізе — віцебскія вуліцы, знаёмая лесвіца. Сілуэты дамкоў, старых, нахіленых платоў, голыя галіны дрэваў, што перапляліся нібы жывыя калючыя істоты... Душэўная цеплыня і смутак...

Альбо яшчэ Віцебск. На бліжнім плане, нібы "ў абрэз" напісаныя два мураваныя будынкі з шыльдамі. Уздоўж будынкаў рухаецца самотная жанчына ў хустцы. Другая, у чорным, амаль запоўніўшы сабою вузкую вулачку паміж дамамі, сядзіць ля лесвіцы, сціснуўшы на каленях рукі. Дахі, карнізы, гандлёвыя крамкі перад домам — усё поўніцца ружовым снегам. Толькі вокны маўкліва пазіраюць на нас фіялетавымі вачыма. Так, гэта ўжо іншы Віцебск, — самотны, няўтульны, занядбаны...

Як склаўся лёс Дабужынскага далей? У 1924 годзе мастак разам з сям'ёй на запрашэнні літоўскага паэта Ю.Балтрушайціса пераязджае на пастаяннае жыхарства ў Літву, што стала незалежнай дзяржавай. Жывучы ў Каўнасе, ён не разрывае сувязяў з беларускай культурай, афармляе беларускія кнігі; у напісанні некаторых назваў выкарыстоўвае шрыфт Ф.Скарыны. Некалькі гадоў выкладае ў Ковенскай мастацкай школе, шмат вандруе па Еўропе, шмат экспануецца, афармляе спектаклі.

На пачатку 1938 года Міхаіл Чэхаў запрашае Дабужынскага ў Лондан для ўдзелу ў пастаноўцы "Бесаў" паводле Дастаеўскага. Праца над дэкарацыямі і касцюмамі не была скончана: пачалася Другая сусветная вайна і першыя бамбардзіроўкі англійскай сталіцы. Тэатр вырашылі адправіць у ЗША, каб там скончыць пачатую працу.

22 ліпеня 1939 года Мсціслаў Валерыянавіч з жонкай і малодшым сынам пакінуў Еўропу і, як аказалася, назаўжды. Пасля вайны, жывучы ў Нью-Ёрку, Дабужынскі зрабіў ілюстрацыі да "Слова аб палку Ігаравым", аформіў балет на музыку Пракоф'ева "Рускі салдат", напісаў шэраг станковых твораў.

Памёр ён 20 лістапада 1957 года — сорак гадоў таму — у сваёй майстэрні падчас працы над варыянтам даўняй сваёй жывапіснай карціны (1926 г.) "Вітаўт — вялікі князь Літоўскі". Пра гэта шмат гадоў таму ў Маскве мне і Люсі Лапцэвіч распавёў Натан Альтман, які добра ведаў Дабужынскага. Напрыканцы аповеду ён заўважыў: "Мабыць, Мсціслаў Валяр'янавіч вельмі спяшаўся сустрэцца са сваімі далёкімі продкамі-землякамі..."

**Барыс КРЭПАК**

М.Дабужынскі. "Аляксандр Бенуа". Малюнак, аловак, 1911 г.



# АБ КНЯЗЯХ СЛУЦКІХ АЛЕЛЬКАВІЧАХ І ІХ ПАРТРЭТАХ

***У старыя часы амаль у кожным цэнтры магутнага магнацкага роду можна было трапіць у партрэтную галерэю, пад якую звычайна адводзілася адна з залаў палаца і дзе можна было ўбачыць выявы прадстаўнікоў дынастыі. Памяць аб продках захоўвалася, іх добрымі справамі ганарыліся. Прыкладаліся намаганні, каб працягнуць свой радавод у глыб гісторыі, ствараліся часам продкі нават міфічныя. За свае справы кожны нёс адказнасць не толькі перад уладаром дзяржавы і законам, але і перад усім сваім родам. Такія галерэі былі своеасаблівай візітнай карткай роду. Сёння найбольш вядомай з'яўляецца партрэтная галерэя нясвіжскіх Радзівілаў.***

У XV-XVI стст. Слуцк быў цэнтрам уладанняў адной з наймагутных і ўплывовых дынастый, што вялі свой радавод ад Вялікіх князёў Літоўскіх — Гедыміна і Альгерда — князёў Алелькавічаў. Несумненна, што заняцце велікакняскага прастола князем Ягайлам, які належаў да аднаго з малодшых адгалінаванняў роду Альгердава, князем Аляксандрам Уладзіміравічам (Алелькам), яго нашчадкамі разам з некаторымі іншымі прадстаўнікамі велікакняскіх родаў было ўспрынята як парушэнне традыцый. Гэта сталася прычынай княскіх міжусобіцаў. І калі Ягайла, выбраны і каралём Польшчы, прыняў каталіцтва і меў у сваёй дзейнасці кірунак заходняй арыентацыі, дык Алелькавічы засталіся праваслаўнымі і ставіліся да Ягелонаў недружалюбна. Падтрымка князямі Слуцкімі ў межах свайго гаспадарства ўсходняй царквы з часам сталася прычынай, што Случчына ўяўляла сабой адзін з самых значных асяродкаў праваслаўя ў Літве і ў Рэчы Паспалітай увогуле. Творы мясцовых іканапісцаў сёння вызначаюць асаблівасці рэгіянальнай Слуцка-Мінскай школы іканапісу. Мясцовая іканапісная майстэрня з'яўлялася і базай для працы мастакоў-партрэтыстаў, якія ператварылі Слуцк у апошняй чвэрці XVI ст. у адзін з самых буйных цэнтраў партрэтнага мастацтва ў дзяржаве. Як адзначаюць даследчыкі, раннія партрэты Алелькавічаў маюць яскрава выяўленую іканапісную манеру выканання, у пазнейшых ужо пераважаюць рысы рэалістычнага пісьма.

На пачатку XVII ст. Случчына пераходзіць у спадчыну да Радзівілаў. Тады гаспадарамі былі прадстаўнікі Біржанскай галіны роду, а з сярэдзіны XVIII ст. — нясвіжскія Радзівілы. На працягу згаданага перыяду багатая мастацкая і культурная спадчына Алелькавічаў пачынае пакідаць Слуцк. Напрыклад, сваю бібліятэку князь Багуслаў Радзівіл (сюды ўваходзіў і кнігазбор Алелькавічаў, з якім, дарэчы, працаваў у свой час вядомы польскі паэт і гісторык М.Стрыйкоўскі) перадае ў Кёнігсберг. Трон Алелькавічаў апынуўся спачатку ў мясцовым фарным касцёле, а цяпер ён знаходзіцца ў музеі Вікторыі і Альберта ў Лондане. У часы князя Гераніма Радзівіла (сярэдзіна XVIII ст.), як адзначаў яго сучаснік Станіслаў Рэйтан, "Верхні замак рускіх князёў Алелькавічаў ляжаў у руінах".

У экспазіцыі Нацыянальнага мастацкага музея ў Мінску знаходзіцца партрэт цвярскога князя Міхаіла Барысавіча (XVI ст.). Сюды ён трапіў з нясвіжскага замка Радзівілаў. Аднак князь Міхаіл, калі і мае дачыненне да гэтага знакамітага роду, дык самае аддаленае. А да Алелькавічаў — самае непасрэднае, бо яго жонкай была дачка князя Сямёна Аляксандравіча Алелькі, які з 1443 г. быў слуцкім князем, а з 1454 г. стаў князем кіеўскім. Атрымаўшы паразу ад князя маскоўскага (у справе аб'яднання ўсходнерускіх земляў), цвярскі князь знайшоў прытулак у Літве. Верагодна, што і партрэт яго мог быць напісаны слуцкім мастаком і знаходзіцца спачатку ў галерэі Алелькавічаў.

Хутчэй за ўсё праз Радзівілаў трапіў у Польшчу партрэт слуцкай княгіні Кацярыны Тэнчынскай. Цяпер ён знаходзіцца ў Нацыянальным музеі ў Варшаве. Пэўны час таму ён лічыўся творам невядомага польскага мастака. Беларускі гісторык А.Грыцкевіч пераканаўча даказаў, што гэта работа беларускага майстра і што напісаны партрэт у 1580 г. у Слуцку. Рысы княгіні перададзены рэалістычна, аднак шэраг прыкмет — кампазіцыйная пабудова твора, выкарыстанне тэксту і выявы герба на полі палатна — далучае яго да групы т.зв. "сармацкіх" партрэтаў.

Напісаны на пачатку XVII ст. пагрудны партрэт апошняй прадстаўніцы роду Алелькавічаў княгіні Сафіі ў 20-я гады XX ст. трапляе ў Віленскі беларускі гісторыка-этнаграфічны музей, аснову якога заклаў І.Луцкевіч. І хаця і тут можна знайсці тое, што далучае партрэт да больш ранніх твораў, аднак гэта ўжо ўзор рэалістычнага жывапісу, зроблены ў традыцыях еўрапейскага Адраджэння. Перад намі прыгожая маладая жанчына. Мастак не толькі перадае знешнія рысы, але і ўглядаецца ў яе ўнутраны свет, які гледачу падаецца цэласным і гарманічным. Несумненна, што гэта адзін з лепшых жаночых вобразаў у старажытным беларускім мастацтве.

Захоўваліся партрэты Слуцкіх князёў і ў слуцкім Траічанскім манастыры. У Троіцкім саборы каля правага боку алтара віселі два партрэты на ўвесь рост і амаль у натуральную велічыню, зробленыя ў іканапіснай манеры. На адным — выява княгіні Настассі, гераіні абароны горада ў 1506 г. ад татараў, а ў 1508 г. ад войскаў князя М.Глінскага. У памяць перамогі над татарамі княгіняй і быў закладзены згаданы мураваны храм. На другім, як піша мастацтвазнаўца М.Кацар, быў намаляваны князь Сімяон Аляксандравіч. Аднак можна выказаць меркаванне, што гэтая выява належала мужу княгіні Настассі — князю Сімяону Міхайлавічу, і разам яны стваралі "сямейны" дыптых. Доўгі час пасля смерці князь Сімяон і княгіня Настасся шанаваліся мясцовым насельніцтвам як святыя і нябесныя апекуны краю.

Некалькі палотнаў захоўваліся ў адным з пакояў дома архімандрыта. А з 2-й пал. XIX ст. яны былі ў рызніцы цёплай Дабравешчанскай царквы. На адным палатне меліся выявы чатырох князёў: заснавальніка дынастыі кн.Алелькі і трох апошніх — князёў Юрыя, Аляксандра і Яна-Сімяона. Пасярэдзіне размяшчаўся родавы герб "Пагоня". На другім палатне, па меркаванні даследчыка А.Сніткі, быў намаляваны кн.Юрый (II) Юр'евіч. Гэты князь ужо не прымаў актыўнага ўдзелу ў палітычным жыцці дзяржавы, але, з'яўляючыся адным з самых багатых магнатаў, ператварыў Слуцк у буйны мастацкі цэнтр. Побач з князем мастак размясціў фігуру "крылатага генія".

Пасля рэвалюцыі манастыр закрылі. Партрэты князёў Слуцкіх перададзены ў мясцовы краязнаўчы музей, але, як скарб агульнадзяржаўнага значэння, у 1925 г. яны былі забраныя ў мінскі Дзяржаўны музей. Разам з іншымі нацыянальнымі каштоўнасцямі гэтыя творы прапалі ў час Айчыннай вайны.

Сёння графічныя партрэты Кацярыны Тэнчынскай і Сафіі Алелькі можна сустрэць у вядомым альбоме "Выявы роду князёў Радзівілаў", выдадзеным у 1758 г. у Нясвіжы. У канцы XIX ст. майстрам рэпрадуцыйнай гравюры А.Зубчанінавым былі зроблены з жывапісных арыгіналаў XVI ст. гравіраваныя партрэты князёў Аляксандра Алелькі і Юрыя Алелькавіча. Выява Св.Сафіі Алелькі, якая цяпер кананізавана праваслаўнай царквой, маецца таксама на абразах. Графічныя мініяцюрныя партрэты кн.Аляксандра Уладзіміравіча, кн.Кацярыны Тэнчынскай, кн.Юрыя Юр'евіча і Сафіі Алелькі стварыў сучасны беларускі мастак М.Басалыга. Вобраз князя Алелькі адлюстраваны ім і ў трыпціху "Грунвальдская бітва".

Сёння надаецца асаблівая ўвага пошукам і лёсу страчанай спадчыны, ставяцца пытанні вяртання незаконна вывезеных каштоўнасцяў. Хочацца не губляць надзею, што знойдуцца і творы, якія калісьці нарадзіліся ў Слуцку.

**Ігар ЦІТКОЎСКІ**



# ...ТВОРЧЫ ЖЫЦЦЯПІС ДУКОРЫ



Калі праязджаю па шашы з Мінска ў накірунку да Бабруйска, заўсёды чапляюся позіркам за Дукору, вёску, што па левы бок дарогі. Старажытнае, багатае на гісторыю мястэчка. І назва ў яго прыгожая — Ду-ко-ра. Аркадзь Смоліч у кнізе "Геаграфія Беларусі", упершыню выдадзенай у 1917 годзе, напісаў у раздзеле "Менская краіна": "Ігуменскі павет ляжыць шырокім паясом, працягнутым ад Нёмна аж за Бярэзіну. Прырода яго на гэтым вялікім прасторы няроўная... У заходняй частцы павету ляжыць рад дробных мястэчак, як Вузда, Дукора, Пухавічы, Пясочнае і г.д. Кожнае з іх мае сваю, часта вельмі цікавую, гістарычную мінуўшчыну, а цяпер з'яўляецца гандлёвым пунктам..."

Праўда, не такім ужо дробным мястэчкам была Дукора і ў ранейшыя часы. Упершыню Дукора ўпамінаецца ў 1582 годзе як уласнасць непаўналетніх дзяцей Я.Завішы, маці якіх другім шлюбам выйшла за князя А.Вішнявецкага. Што датычыць назвы, то вось якое наступнае тлумачэнне дае В.Жукевіч у "Кратком топонимическом словаре Белоруссии": "...Существовало и речное название, производное от имени поселения: в 1590 г. значилось: "На Дукорце". Название образовано от балтийской основы, вероятно, от dukra — дочка, в топонимии названия от терминов, обозначающих степень родства, часты".

Няўжо ж гэтулькі літаратурных повязяў мае дачыненне да аднае сціплае вёскі, сціплага мястэчка, што ёсць падставы гаварыць пра літаратурную, мастацкую гісторыю Дукоры? Мяркуйце самі.

Па-першае, лёс мястэчка і яго жыхароў — добра засвоеная тэма ў мастацкай, дакументальнай і краязнаўчай літаратуры. Зазірніце ў трэці том славутай "Живописной России" (аўтар — Адам Карлавіч Кіркор). Сёмы нарыс — "У Беларускім Палессі": "...Потомъ Прилуки перешли въ родъ Ивановскихъ. Здесь-то находился, прославленный балладою известного польского поэта А.Э.Одынца, заколдованный замокъ. По женской линии имение перешло отъ Ивановскихъ къ Ошторпу, долгое время бывшему минскимъ губернскимъ предводителемъ дворянства. Ошторпъ былъ перкрасный человекъ, хлебосолъ, большой гастрономъ. Въ другомъ его имении, Дукоре, у него былъ театръ, картинная галерея, и здесь гости пировали целыя недели. Когда Ошторпъ умеръ, польский поэтъ-юмористъ Легатовичъ, никого нещадивший (в своихъ язвительныхъ эпиграмахъ, написал следующие два стиха..." (У перакладзе з польскай мовы сэнс тае эпіграмы наступны: смерць Оштарпа ў Дукоры прынясе вялікую, значную перамену — паны перастануць піць, а мужыкі пачнуць есці.)

Хутчэй за ўсё Легатовіч і сам неаднойчы бываў у Дукоры, спрычыняўся да гасцціннасці тых жа Оштарпаў. Ёсць занатоўка пра Дукору ў вядомым, нядаўна перавыдадзеным "Путешествии по Белоруссии и Полесскому краю" Паўла Шпілеўскага. Першая публікацыя гэтага выключнага па насычанасці этнаграфічным, гістарычным матэрыялам падарожнага дзённіка — у сярэдзіне мінулага стагоддзя ў часопісе "Современник".

Так, сярод гаспадароў Дукоры быў і магутнейшы род Радзівілаў. У мястэчку высіўся палац-прыгажун, які, між іншым, занатаваў на адной са сваіх работ вядомы мастак Напалеон Орда (1807 — 1883). Паводле яго малюнкаў і акварэляў у 1873-83 гадах мастаком А.Місурэвічам створаны і выдадзены ў Варшаве літаграфіі (260 графічных малюнкаў Орды зберагаецца ў Нацыянальным музеі ў Кракаве). Мастак-дакументаліст Напалеон Орда, канешне ж, маляваў з натуры. Варта знаць, што Напалеон Орда — яшчэ і кампазітар, піяніст, педагог і — пісьменнік. Стварыў і ў 1873 годзе выдаў "Граматыку музыкі", высока ацэненую С.Манюшкам.

Яскравая старонка літаратурнай біяграфіі Дукоры — лёс пачынальніка сучаснай беларускай драматургіі Васіля Савіча Гарбацэвіча (1893 — 1985). Нарадзіўся ў сялянскай сям'і ў вёсцы Дукора. Скончыўшы Рагачоўскую настаўніцкую семінарыю, Мінскі настаўніцкі і вышэйшы педагагічны інстытуты, працаваў настаўнікам. У 1918 — 1924 гадах — у Дукорскім вышэйшым пачатковым вучылішчы. Пасля працаваў у Магілёве. У 1933 — 1957 гадах (з "перапынкам на вайну") ізноў працаваў настаўнікам Дукорскай сярэдняй школы. У 1947 годзе Васіля Савіча ўшанавалі званнем заслужанага настаўніка Беларусі. І толькі ў 1981 годзе прынялі ў Саюз пісьменнікаў. Тады як яшчэ ў 1921 (за шэсцьдзесят гадоў да афіцыйнага прызнання!) Беларускі дзяржаўны тэатр паставіў яго п'есу "Вяселле", напісаную паводле беларускага вясельнага абраду. Першым мастацкім водгукам на падзеі, звязаныя з грамадзянскай вайной на Беларусі, стала другая п'еса Васіля Гарбацэвіча — "Чырвоныя кветкі Беларусі" (пра подзвіг 16 дукорскіх партызан у барацьбе супраць белапольскіх акупантаў). Пяру Васіля Савіча належаць і іншыя п'есы — "К бяздонню", "Пад вішнёвымі садкамі", "Песні нашых дзён". Заслугі Васіля Гарбацэвіча — і ў стварэнні Дукорскага драматычнага гуртка (існаваў у 1917 — 1920 гадах).

Дукора — і радзіма вядомага мовазнаўцы, доктара філалагічных навук Марыі Андрэеўны Жыдовіч (1906 — 1977). У 1938 годзе яна скончыла Мінскі педагагічны інстытут. Больш за два дзесяцігоддзі аддала працы ў Белдзяржуніверсітэце. Працавала і ў Інстытуце мовазнаўства Акадэміі навук Беларусі. Некалькі слоў пра палітру навуковых зацікаўленняў дукорскага мовазнаўцы. Марыя Андрэеўна займалася гісторыяй беларускай мовы, беларускай дыялекталогіяй. У 1944 годзе абараніла доктарскую дысертацыю, прысвечаную лексічным, марфалагічным, фанетычным рысам помніка беларускага пісьменства XVI стагоддзя — Супрасльскага летапісу.

З мястэчкам Дукора звязаны і лёс вядомага беларускага дзяржаўнага дзеяча Аляксандра Рыгоравіча Чарвякова, нарадзіўся ён тут у 1892 годзе. А скончыў жыццё самагубствам 16 чэрвеня 1937 года. Не мог так не скончыць (а мо і сталінскія каты застрэлілі?). Не мог не быць расстраляны Старшыня Прэзідыума ЦВК БССР. Сапраўднае сяброўства яднала Аляксандра Рыгоравіча Чарвякова з Янкам Купалам. Гасцямі кіраўніка дзяржавы заўжды былі літаратары. А.Чарвякоў сам выступаў з артыкуламі ў газетах і часопісах. Яфім Садоўскі ўспамінаў пра Аляксандра Рыгоравіча: "Па журналісцкіх справах мне нярэдка даводзілася бываць у прыкметным будынку на пляцы Волі. Ён, на шчасце, захаваўся. Сюды штодзень пяшком прыходзіў Старшыня ЦВК БССР Чарвякоў. Узначальваў ён таксама розныя грамадскія арганізацыі. Гэта і таварыства прыхільнікаў дзяцей, і "Озет" — яўрэйскае таварыства землеўпарадкавання.

У кабінеце Чарвякова я неаднойчы сустракаў Янку Купалу, Якуба Коласа, Міхася Чарота, Змітрака Бядулю, Платона Галавача. Трапіць да прэзідэнта было вельмі проста, не трэба было запісвацца ў чаргу. Аляксандр Рыгоравіч і сам выклікаў да сябе пісьменнікаў, вёў гутаркі на розныя тэмы".

Сучасны літаратурны партрэт Дукоры — гэта і творчы, жыццёвы лёс паэта Алеся Пісарыка (нарадзіўся ў 1954 годзе ў Мінску), аўтара пяці кніжак паэзіі. Да школы Алесь выхоўваўся ў бабулі ў вёсцы Пагулянка Чэрвеньскага раёна. У 1961 годзе бацькі пераехалі ў Дукору, дзе Алесь Пісарык скончыў дзесяцігодку. У 1973 — 1975 гадах служыў у арміі. Потым працаваў у Мар'інай Горцы — у друкарні раённай газеты "Сцяг працы" (1975 — 1976). Многія вершы Алеся Пісарыка — пра родную пухавіцкую старонку, пра Дукору і яе ваколіцы.

Дукора — і сціплая геаграфічная кропка ў гісторыі яўрэйскай літаратуры. У мястэчку нарадзіўся літаратурны крытык Шмуэль Нігер (Чарны). Імя яго вядомы даследчык беларускай эміграцыі Вітаўт Кіпель згадвае ў сваёй манаграфіі "Беларусы ў ЗША" (Мінск, 1993).

Такая вось у старажытнай Дукоры літаратурная, мастацкая біяграфія.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

# КАЗЫРНАЯ КАРТА РАСІЯН У ВЕНЕЦЫІ

## іхнія норавы




Пасля стужкі Рагожкіна "Асаблівасці нацыянальнага палявання", якая акрэслена як авангарднае кіно (ці дэкадэнс) постперабудовы на Венецыянскім фестывалі, прафесійная публіка 54-га і другога еўрапейскага форуму пасля Каннаў чакае ад Расіі цяпер ужо секс-сімвалаў. На адкрыцці фестывалю ўручалі "Залатых ільвоў" тым, хто верна служыў кінематографу. А менавіта: Алідзе Валі — славутай актрысе 60-х, Мікеланджэла Антаніёні і Стэнлі Кубрыку — знакамітым рэжысёрам XX стагоддзя. Але ж галоўнай падзеяй стала ўручэнне "Залатога льва" французскаму акцёру і вінаробу Жэрару Дэпардзье. Пагадзіцеся, гэты велізарны француз з грубымі рысамі твару рашуча ўваходзіць у спіс непаўторных секс-кіназорак свету ў свае 50 гадоў. У вольны ад бізнесу час Жэрар Дэпардзье здымаецца звычайна ў прыстойных кінапалотнах: "Чалавек у жалезнай масцы", "Граф Монтэ-Крыста"... Хаця на афіцыйнай цырымоніі француз шчыра прызнаўся гледачам, што марыць сыграць Дэ Голя і Напалеона. Але ж на ролю апошняга, дарэчы, яго не запрасіў усё той жа Стэнлі Кубрык: акцёру перашкодзіў вялікі рост і адсутнасць вытанчанага профілю.

Зразумела, лёс конкурсных стужак вызначыцца ў хуткім часе. Толькі, узгадваючы Венецыянскі фестываль, мушу не прамінуць яшчэ адну дату. У гэтым годзе П'еру Пазаліні, якога гвалтоўна забілі ў лістападзе 1975 года, споўнілася б 75 гадоў. Як і любы іншы мастак, ён не меў пачуцця страху. Ён апантана, а часам і правакацыйна, крытыкаваў італьянскае грамадства, якое ўзначальвалі карумпіраваныя структуры. Ягоны раман "Жорсткае жыццё" (1959),кінастужка "Сала, або 120 дзён Садома" (1975), ягоныя журналісцкія артыкулы на старонках газеты "Кар'ерэ дэла сэйра" — зрабілі філосафа, пісьменніка і кінарэжысёра не патрэбным ні "власть предержащим" ні слесару завода "Фіят". Я памятаю, як у 1995 годзе на 52-м Венецыянскім кінафэсце чакалі стужку рэжысёра Марка Джардана " Пазаліні: італьянскае злачынства". Гэты фільм зманціраваны з дакументальнай хронікі і ігравых эпізодаў. Толькі асаблівы акцэнт у фільме быў пастаўлены на ацэнцы, якую даваў Пазаліні карупцыі і прыхільнасці ідэалам фашызму. Сумна, толькі праз дзесяцігоддзі Італія зноў перажыла хвалю ўзрастання карупцыі ў асобе прэм'ер-міністра Сільвіо Берлусконі, студэнцкую хвалю постнеафашызму. Прарок у сваёй айчыне? Асоба Паола Пазаліні здаецца і сёння небяспечнай для шэрагу еўрапейскіх краін.

... Але ж цяпер кінематаграфічны свет на невялікіх выспах вільготнай Венецыі варожыць на каваай гушчы ў рэстарацыях пляца Сан-Марка: хто ж атрымае галоўныя прызы фестывалю... Не хвалюйся, беларускі глядач, нашых там няма. Айчынны турыст у Венецыі заўсёды ў шопе! Відаць, "Беларусьфільм" рыхтуецца да акадэмічных прызоў, напрыклад, галівудскіх "Оскараў". Дзіва што: свіран згарыць, затое мышы лясну ць!

Не ўсё ж спартсменам ды журналістам падымаць славу штандара Белай Русі. Дарэчы, вось і рускі фільм "Злодзей" рэжысёра Паўла Чухрая ўдзельнічае ў конкурснай праграме і наводзіць жах не толькі на журы фестывалю. Галоўную ролю ў стужцы выконвае Уладзімір Машкоў, якога прадстаўнікі маскоўскай мас-медыя назвалі секс- сімвалам сусветнага кінематографа. Адчуваеце, з якім джокерам прыехалі масквічы? Сапраўды, калі не адным, дык другім: чым хата багата...

**Аўтар паласы Жанна ВАСАНСКАЯ**

# ЯКІЯ ЛЮДЗІ Ў ГАЛІВУДЗЕ!

Заклік вялікіх чыноў ад культуры "самаакупайцеся!" хтосьці ў кінематаграфічным свеце на Беларусі ўспрыняў літаральна. І слушна зрабіў! Калі некаторыя з суседняй Расіі дагэтуль мараць памыць хаця б ногі ў Індыйскім моры-акіяне, то нашыя знакамітасці: пісьменніца Раіса Баравікова і кінарэжысёр Міхась Пташук — будуць самаакупацца і купацца не толькі ў славе, але і ў самай кінематаграфічнай рацэ Ганг. Зразумела, каманда "К" будзе шчаслівая за айчынных мэтраў мастацтва і будзе марыць у сваю чаргу стаць інфармацыйным спонсарам кінематаграфічнага праекта, які зараз дапрацоўваецца ў розных кабінетах на розных паверхах. Праект мае праграму-мінімум і праграму-максімум. Сёння ўжо як мінімум Раісай Баравіковай напісаны сцэнар для сумеснай стужкі "Любі мяне, Індыя" студыі "Беларусьфільм" і кінакампаніі "Eagl-film" (Індыя). Рэжысёр Міхась Пташук чакае як максімум прапановы ад індыйскага боку здымаць гэты фільм. Ходзяць чуткі, што сустрэча з прадстаўнікамі індыйскай кінакампаніі плануецца на кастрычнік, прынамсі пройдзе яна ў Мінску. Каб пацвердзіць інфармацыю-пагалосак, мы вырашылі патэлефанаваць персанажам гэтага газетнага сюжэта і стаць піянерамі беларуска-індыйскай свецкай хронікі сярод СМІ.

**Раіса БАРАВІКОВА:**

— Ідэя напісання сумеснага сцэнара стужкі ўзнікла не спантанна. Колькі год мая сям'я сябруе з сям'ёй Міхася Пташука, столькі год ішла гаворка па нашую творчую працу. Жартавалі на гэты конт яшчэ ў Маскве, калі былі студэнтамі: Міхась вучыўся у ВГІКу, а я ў Літінстытуце. Мяне заўсёды захапляла творчасць майго земляка з Берасцейшчыны. І вось нарэшце літаратурная фактура гатовая і зараз перакладаецца на ангельскую мову. Сюжэт стары, як свет, але ж вядома — колькі людзей, столькі ж лёсаў. Дзеянне разгортваецца ў Віцебску падчас "Славянскага базару", куды прыязджае малады спявак з Індыі для ўдзелу ў конкурсе. На Беларусі ён знаёміцца з маладзенькай гераіняй стужкі Машай. Па класічным сюжэце, прапанаваным яшчэ Шэкспірам, ініцыятарамі асноўнага канфлікту стужкі выступаюць бацькі закаханых. Экзатычныя кадры і музыка належаць Індыі. Але пра фільм гаворку весці рана.

**Міхась ПТАШУК:**

Падчас кінафестывалю ў Ташкенце, які адбыўся сёлета, я пазнаёміўся з індыйскім кінапрадзюсерам спадаром Мехрай. Ён і прапанаваў мне сумесную кінапрацу. У кастрычніку індыйскія калегі збіраюцца прыехаць у Мінск, і я спадзяюся, мы прыйдзем да хэппі энда нашых перамоваў. А пакуль што была зроблена вялікая праца: разам з вядомай Раісай Баравіковай прачыталі столькі матэрыялаў аб Індыі, што ўрэшце сам закахаўся ў загадкавую радзіму Крышны. Нават калі фільм застанецца толькі ў задумцы, я буду ўдзячны лёсу адно за тое, што працаваў з разумнай і тонкай літаратаркай, праз радкі якой я адкрыў сабе краіну не толькі меладрам.



# ТАНЕЦ ШЫВЫ НА СЛАВЯНСКІМ БАЗАРЫ

## нашыя мары

К КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
Выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдакцыйная калегія:
Валянцін АКУДОВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Арсен ВАНІЦКІ, Андрэй ВАШКЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГЛЕП, Валянцін ЕЛІЗАР'ЕЎ, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Вольга ІПАТАВА (рэдактар аддзела), Ігар КЛОКАЎ (рэдактар аддзела), Анатоль КУДРАВЕЦ, Мікола КУПАВА, Алена ПІСЬМЯНКОВА (рэдактар аддзела), Міхаіл ПТАШУК, Алег ТРУСАЎ, Юрый ЦВЯТКОЎ, Васіль ШАРАНГОВІЧ

Рэдакцыя:
Рэдактары аддзелаў — Міхась БАШУРА, Жанна ВАСАНСКАЯ, Барыс КРЭПАК
Спецкарэспандэнты: Зміцер ВІШНЁЎ, Сяргей МІНСКЕВІЧ
Загадчык аддзела фотаілюстрацый — Генадзь ЖЫНКОЎ
Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК), вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: (017) 276-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.
Індэкс 63875.
Агульны наклад 3450.

Падпісана ў свет 4.09.97. у 15.30.

Замова 5167

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.
Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.